БІМСІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН
НА БЕЛАРУСІ
("АЛЬ-КІТАБ")

№ 2 і № 3
МЕНСК 1991

Згуртаванню татарау-мусульман на Беларусі / "Аль-Кітаб" / вялікую дапамогу аказалі спадарыні і спадары:
А.Александровіч, Х.Александровіч, Г.Анісімава, М.Асановіч, Э.Асановіч, М.Байрашэускі, Г.Бака, Р.Барадулін, М.Баранік, Я.Басін, З.Башырау, А.Бельскі, В.Вайткевіч, І.Вяргейчык, В.Вячорка, Р.Гамзовіч, Н.Гаурош, А.Гембіцкі, В.Глінннік, В.Гронскі, А.Гуркоу, Я.Гучок, М.Данцыг, С.Думін, Я.Ждановіч, С.Ільясэвіч, Т.Канапацкая, Я.Кузьміна, А.Лакотка, А.Люты, С.Макаёнак, Я.Малашэвіч, А.Мальдзіс, В.Мацюшэнка, Л.Мельнік, З.Меметава, У.Навуменка, В.Несцяровіч, Т.Панчанка, У.Пашук, А.Пятрашка, А.Рагуля, Р.Раманчук, З.Рапановіч, С.Рафаловіч, С.Сабалеуская, В.Сараеу, В.Скалабан, Дз.Смольскі, М.Смольскі, М.Суша, В.Трыгубовіч, У.Усманава, Е.Фешчанка, І.Чыгрынау, М.Шабановіч, С.Шабановіч, А.Шагідэвіч, Ф.Юркевіч, А.Юрэвіч, А.Якубоуская, Т.Якубоуская, Б.Якубоускі, Х.Ясінская.

Вельмі дапамаглі "Аль-Кітабу" браты-мусульмане з арабскіх краін.

Прыміце татарскі рахмат / дзякуй / і глыбокую пашану.

Згуртаванне татарау-мусульман на Беларусі
/ "Аль-Кітаб" /

Салям алейкум, спадарыні і спадары,

супляменнікі-татары і браты-мусульмане !

З красавіка да кастрычніка прайшло нямала часу, у свеце адбыліся вялікія падзеі, якія знайшлі водгук і у нашым Згуртаванні. Найвялікшая небяспека, якая завісла над нашым народам, -- маскоускі камуністычны путч,-- па волі Алаха не удауся, і нас не закавалі у кайданы.

У чэрвені група татарау пабывала у шэрагу гарадоу і мястэчак, дзе жыве шмат нашых супляменнікау. У Клецку, Навагрудку і Іуі многія мусульмане прытрымліваюцца сваёй веры -- Ісламу. А у іншых месцах вернікау-мусульман засталося вельмі мала, але старыя людзі яшчэ спадзяюцца, што іх пасля смерці хоць пахаваюць па нашай веры.

Парадуе нашых татарау падзея, якая у свята Курбан-Байрам адбылася у Іуі. Вялікая колькасць татарау, з усіх абласцей Беларусі вырашыла стварыць Згуртаванне татарау-мусульман на Беларусі /"Аль-Кітаб"/, якое мае на мэце адрадзіць культуру нашага народа і пашырыць мусульманскую веру сярод татарау, падтрымліваць сувязь з нашымі супляменнікамі у іншых дзяржавах, з нашымі братамі-адзінаверцамі. Прэзідэнтам нашага Згуртавання адзінадушна абраны Абубякір Шабановіч, ураджэнец гар.пас.Іуе. Пажадаем яму і нашаму Згуртаванню плённай працы.

І яшчэ адна прыемная звестка: дзве татарскія дзяучыны і адзін юнак з дапамогай Алаха паступілі у ВНУ. Віншуем іх, іхніх бацькоу і родных з гэтай нагоды. Наша Згуртаванне спадзяецца, што маладыя студэнты будуць шчырымі, працавітымі, добрымі, што будуць падтрымліваць сувязь з нашымі татарамі, актыуна удзельнічаць у рабоце Згуртавання.

На жаль, у жыцці нашых татарау бываюць вельмі сумныя падзеі: у канцы чэвеня памёр ці не самы стары татарын у Менску -- Алі Адамавіч Барановіч, наш імам. Колькі дзяцей ён паазаніу, колькі стварыу мусульманскіх сем"яу, даючы ім шлюб, колькі людзей пахавау па нашай веры, за колькі мусульманскіх душ і мізарау памаліуся! Успомніце яго добрым словам, прачытайце святы Я-Сін за яго душу. Пахавалі нашага імама на мізары у Смілавічах.

Вельмі сумныя звесткі ідуць ад нашых братоу з Крыма. Рабаунікі, якія адабралі зямлю, маёмасць і жыцці тысяч і тысяч татарау, цяпер не даюць ім вярнуцца на сваю радзіму. Рускія шавіністы, міліцыя, амонаущы, вайскоуцы разбураюць іх хаціны, збіваюць людзей.

Мы памятаем, як цешыліся усе тым, што у Татарстане на пасаду прэзідэнта быу абраны татарын. Якія надзеі мы на яго ускладалі! Але не доуга радаваліся. У час путчу ён заняу пазіцыю падтрымкі партыйна-бюракратычнай вяркушкі. Прыйдзецца татарам у нялёгкай барацьбе шукаць другога лідэра, які павядзе іх добрым шляхам.

Дарагія сябры ! Не чакайце спецыяльных запрашэнняу на наша зборы у пятніцу вечарам, не чакайце даручэнняу, самі думайце, чым можна дапамагчы нашаму Згуртаванню. Прапануйце свае ідэі, парады, паслугі і шліце іх пакуль што на адрас:

220090, г.Менск, Лагойскі тракт, д.27, кв.77

Якубу Якубоускаму

سورة البقرة

مدنية وآيها مائتان وست وثمانون آية

بِسْمِ ٱللَّهِ ٱلرَّحْمَٰنِ ٱلرَّحِيمِ

١ الٓمٓ ذَٰلِكَ ٱلْكِتَابُ لَا رَيْبَ فِيهِ هُدًى

لِلْمُتَّقِينَ ٢ ٱلَّذِينَ يُؤْمِنُونَ بِٱلْغَيْبِ

وَيُقِيمُونَ ٱلصَّلَوٰةَ وَمِمَّا رَزَقْنَاهُمْ يُنْفِقُونَ

٣ وَٱلَّذِينَ يُؤْمِنُونَ بِمَا أُنْزِلَ إِلَيْكَ وَمَا

أُنْزِلَ مِنْ قَبْلِكَ وَبِٱلْآخِرَةِ هُمْ يُوقِنُونَ

Кур"ан. Пачатак суры Аль-Бакара.

# КУР'АН

## Сура Аль-Бакара

/працяг/

59. І ўспомніце пра той час, калі Майсей вымольваў вады для свайго народа, і Мы сказалі: "Удар у скалу тваім жазлом"; і вось з яе хлынула дванаццаць крыніц, так што кожнае калена ведала свой вадаём. "Ешце і піце з таго, што Алах даравау, і не рабіце беззаконня на зямлі, не стварайце смуту".

60. І ўспомніце пра той час, калі вы сказалі: "О, Майсей, не будзем мы задаволены толькі адной стравай; памаліся Госпаду твайму за нас, каб Ён стварыў для нас тое, што расце на зямлі — злакі і агуркі, і пшаніцу, і сачавіцу, і цыбулю". Ён сказаў: "Ці хочаце вы прыняць ніжэйшае ў абмен на вышэйшае? Зайдзіце ў які-небудзь горад, і там ёсць для вас тое, што вы просіце. І прыніжэнні і нягоды паразілі іх, і яны наклікалі на сябе гнеў Алаха: гэта адбылося таму, што яны адверглі знакі Алаха і несправядліва забівалі прарокаў; і гэта было таму, што яны абурыліся і тварылі беззаконне.

61. Сапраўды, і Вернікі, і Іудзеі, і Хрысціяне, і Сабіяне, — усе, што іспіцінна вераць у Алаха і Судны Дзень і робяць дабро, — атрымаюць узнагароду ад Госпада іх і не будуць ведаць яны ні страху, ні скрухі.

62. І Успомніце пра той час, калі Мы прынялі запавет ад вас і Узнялі Гару высока над вамі, сказаўшы: "Моцна трымайцеся таго, што Мы вам падарылі і адлюструйце ў свядомасці сваёй, каб вы маглі выратавацца.

63.А пасля гэтага вы адвернецеся; і калі б не боская ласка Алаха да вас і Яго літасць, сапраўды, вы мелі б страту.

64. І без сумнення, вы ведаеце пра лёс тых, што парушылі Усталяванне Дня Суботняга. Таму Мы сказалі ім: "Будзьце вы малпамі, пагарджаныя".

65. Такім чынам, Мы пастанавілі гэтым грэшнікам, як для людзей таго часу, так і тых, што будуць пасля іх, і Урокам для тых, хто баіцца Бога.

66. І Успомніце, як Майсей сказаў свайму народу: "Алах загадаў вам зарэзаць карову", яны сказалі: "Ці не насміхаешся ты з нас?". Ён сказаў: "Я шукаю прыстанішча у Алаха, каб не быць тым, што не разумее".

67. Яны сказалі: "Памаліся за нас Госпаду твайму, каб растлумачыў Ён нам, якая яна". Ён адказаў: "Алах гаворыць, што карова ні старая, ні маладая, а сталая, паміж двума Узростамі; цяпер рабіце, што вам загадалі".

68. Яны сказалі: "Памаліся за нас Госпаду твайму, каб сказаў, якой яна масці". Ён сказаў: "Бог кажа, гэта карова бурай масці, чыстага і цёплага адцення, якое радуе вока".

69. Яны сказалі: "Памаліся за нас Госпаду твайму, каб растлумачыў, якая яна; бо Усе падобныя каровы здаюцца нам аднолькавыя; і, калі Алах хоча, сапраўды, мы атрымаем павучанне".

70. Ён адказаў: "Бог кажа, што гэта карова, не прывучаная араць зямлю або палівапь ворыва; яна без усялякай заганы; адной масці". Яны сказалі: "Вось цяпер ты прынёс ісціну". Затым яны зарэзалі яе, хоць і не хацелі рабіць гэтага.

71. І успомніце пра той час, як вы забілі чалавека і спрачаліся між сабой пра гэта; і Алах адкрыў тое, што вы схавалі.

72. Тады Мы сказалі: "Паразіце яго /забойцу/ за долю злачынства супроць яго /забітага чалавека/". Так, Алах дорыць жыццё мёртвым і паказвае нам Свае знакі, каб мы маглі зразумець.

73. Пасля таго вашы сэрцы зрабіліся такімі жорсткімі, што сталі падобнымі да каменя, або нават больш жорсткімі, бо, сапраўды, ёсць камяні, з якіх лінуць ручаі, і ёсць сярод іх такія, што, калі раскольваюцца, з іх цячэ вада. І сапраўды, ёсць сярод іх такія, што пакараюцца ад страху перад Алахам. Алах не забываецца пра дзеянні вашы.

74. Няўжо вы думаеце, што яны павераць вам, калі некаторыя з іх чуюць слова Алаха, а затым скажаюць іх, зразумеўшы яго і ведаючы вынікі?

75. І калі яны сустракаюцца адзін на адзін, яны гавораць: "Ці скажыце вы ім тое, што Алах адкрыў вам?", даючы ім такім чынам магчымасць спрачацца з вамі перад Уладыкаю вашым? Няўжо вы не зразумееце?

76. Хіба яны не ведаюць, што Алах ведае ўсё, што яны утойваюць і што яны адкрываюць.

77. І некаторыя з іх невукі, яны не ведаюць Кнігі, а ведаюць толькі свае ўласныя ілжывыя памяшці, і яны толькі робяць здагадкі.

78. Таму гора тым, што пішуць Кнігу сваімі ўласнымі рукамі і гавораць потым: "Гэта ідзе ад Алаха", каб атрымаць за гэта мізэрную плату. Такім чынам, гора ім за напісанае іх рукамі, і гора ім за зароблёную імі плату.

79. І яны гавораць: "Агонь не кранецца нас, апрача як на некалькі дзён". Скажы: "Ці атрымалі вы абяцанне ад Алаха? У такім выпадку Алах ніколі не парушыць Свайго абяцання. Ці вы гаворыце пра Алаха тое, чаго не ведаеце?".

80. Так, усякі робіць зло і акружаны грахамі сваімі, усе яны — насельнікі Агню, і там яны будуць.

81. Але вернікі і тыя, хто робіць дабро, — насельнікі нябёс; там яны і будуць.

82. Таксама ўспомніце пра той час, калі Мы прынялі запавет ад сыноў Ізраіля: "Вы не будзеце пакланяцца нікому, апрача Алаха і рабіць дабрадзейства бацькам і родным, і сіратам, і бедным, і гаварыць з людзьмі прыязна, і выконваць малітву і плаціць Закят". Тады вы адвернецеся з агідаю, за выключэннем некаторых з вас.

83. І ўспомніце, як Мы прынялі запавет ад вас: "Вы не будзеце праліваць крыві або выганяць сваіх блізкіх з хат сваіх", тады вы гэта пацвердзілі, і вы засведчылі гэта.

84. Аднак вы аказаліся людзьмі, якія забіваюць сваіх братоў і выганяюць сваіх блізкіх з хат, спрыяючы адзін аднаму супроць іх грэхам і беззаконнем. І калі яны прыходзяць да вас, як палонныя, вы выкупліваеце іх, у той час як само

выгнанне іх было незаконнае. Ці не значыць гэта, што вы верыце ў адну частку Кнігі і не верыце ў другую? Таму няма ўзнагароды тым, якія так робяць, а ёсць толькі ганьба ў цяперашнім жыцці; і ў Судны Дзень зведаюць самае цяжкое пакаранне; сапраўды, Алах не абыякавы да вашых учынкаў.

85. Гэта тыя, што аддалі перавагу цяперашняму жыццю перад жыццём Будучага Веку. Таму не будзе зменшана іх кара, і не будзе ім ніякай нашай дапамогі.

86. І сапраўды, Мы далі Майсею Кнігу і паслалі за ім Вешчуноў іоці па яго слядах; і Ісусу, сыну Марыі, мы далі яўныя знакі і ўмацавалі яго Духам святасці. Такім чынам, кожны раз, як Вяшчун прыйдзе да вас з тым, што непажадана вам самім, ці будзеце вы паводзіць напыхліва і абыходзіцца з некаторымі, як з ашуканцамі, а іншых забіваць?

87. Яны сказалі: "Нашы сэрцы ахінуты покрывам", — Не, Алах пракляў іх за няверʼе. Дробнае ёсць тое, у што яны вераць.

88. І тады сышла да іх ад Алаха Кніга, каб выконваць тое, што яны мелі — і да таго яны маліліся за перамогу над няверным! — аднак, калі яны атрымалі тое, што ведалі, яны гэта адвергді. Праклянце Алаха хай будзе няверным.

89. Зло — гэта тое, за што прадалі яны душы свае; што яны не паверылі ў Слова Алаха, наракаючы на тое, што пасылае даброты Свае на тых са слуг, хто патрэбны Яму. Такім чынам, яны наклікалі гнеў за гневам. І ганебнае пакаранне прыгатавана для няверных.

90. І калі ім гавораць: "Верце ў тое, што Алах даў", яны гавораць: "Мы верым у тое, што дадзена нам"; а не вераць

у тое, што дадзена пасля гэтага; Аднак гэта ёсць Ісціна, яна пацвярджае тое, што ў іх ёсць. Скажы: "Калі вы верылі, чаму вы мерыліся забіць прарокаў Алаха?".

91. І Майсей прыйшоў да вас з відавочнымі знакамі, а вы ў яго адсутнасць сталі пакланяцца цяльцу, і вы зрабілі беззаконне.

92. І помніце пра той час, калі Мы прынялі запавет ад вас і ўзнялі Гару высока над вамі, кажучы: "Цвёрда трымайцеся таго, што Мы вам даравалі і слухайце"; яны сказалі: "Мы слухаем і не падпарадкоўваемся"; і іх сэрцы былі працізаны любоўю да цяльца з-за іх няверʼя. Скажы: "Зло ёсць тое, што ваша вера загадвае вам, — калі ў вас ёсць хоць якая вера".

93. Скажы: "Калі пристанішча Будучага Веку ў Алаха толькі для вас адных і выключае ўсіх другіх людзей, — тады пажадайце смерці, калі вы праўдзівыя".

94. Але ніколі яны не пажадаюць яе, з-за таго, што ўласныя рукі зрабілі перад тым; І Алах добра ведае, хто робіць зло.

95. І, сапраўды, знойдзеш ты іх, што прагнуць жыцця больш за ўсіх людзей, нават больш за тых, якія ствараюць роўных Алаху. Кожны з іх жадае, каб яму было даравана жыццё на тысячу гадоў, але дараванне такога жыцця не засцеражэ яго ад пакарання; і Алах бачыць усё, што яны твараць.

96. Скажы: "Усякі, хто вораг Гаўрыіла — бо гэта ён прынёс у сэрца тваё па загаду Алаха тое, што запярджае ранейшае, і што ёсць кіраўніцтва і добрая вестка верным.

/Працяг будзе/

# І М А Н

Іманам /па-арабску іман — вера/ называюць сукупнасць ведаў і пераканання. Слова іман абазначае ўвераванне і шанаванне. Чалавек, які прызнае адзінага Алаха, Яго ўласцівасці, Яго законы, пакаранне і аддзяку, які перакананы ва ўсім гэтым у сваім сэрцы, называецца вернікам, літаральна чалавекам, у якога ёсць Іман. Такі чалавек становіцца пакорлівым і паслухмяным Алаху. З гэтага тлумачэння вынікае, што без Іману ніводзін чалавек не можа стаць мусульманінам. Іслам і Іман знаходзяцца між сабою ў такой жа ўзаемасувязі як, напрыклад. дрэва і семя. Без семя немагчыма з"явіцца дрэву. З аднаго семя вырастае моцнае дрэва, а з другога семя з-за неспрыяльных умоў /неўрадлівая глеба/ вырастае чэзлае дрэўца, якое, звычайна, не дае пладоў. Тое самае бывае і з чалавекам. Калі ў сэрцы чалавека няма Іману, то як жа ён стане мусульманінам? Аднак магчыма і тое, што ў чалавека ёсць Іман, але з прычыны слабасці сваей натуры, недасканаласці навучання і выхавання, а таксама дрэннага ўплыву асяроддзя, ён не можа мець у сабе якасцей паўнацэннага мусульманіна. Такі чалавек — слабы і непаўнацэнны мусульманін. Іслам — паўнацэнны або непаўнацэнны — нараджаецца толькі з семя Іман. Там, дзе няма Іману, там заўсёды пануе куфр / нявер"е /, спадарожнікам якога непазбежна выступае непакорлівасць Алаху і нявазна — у большай ці меншай меры.

Казахскі пісьменнік Абай Кунанбаеў пісаў: "Быць прававерным -- значыць верыць ва ўсёмагутнасць і бездакорнасць Алаха і прымаць Іман як вучэнне прарока Мухамеда аб усеадзінстве Алаха і зямнога быцця. Ёсць два спосабы служэння Алаху. Першы — калі прымаюць Іман і ведаюць, як абараняць і ўмацоўваюць яго разумнымі довадамі. Гэта асэнсаваная вера і тых хто яе /веру/ ажыццяўляе можна назваць сапраўднымі вернікамі. Другі — калі людзі становяцца набожнымі са слоў муллы або праз чытанне святых кніг. Гэта сляпая вера, і такіх пераважная большасць. Але шчырымі вернікамі, бясспрэчна, належыць прызнаць тых, чые перакананні не могуць зламаць ні пагроза смерці, ні тысячы вытанчаных доказаў людзей. Няцяжка здагадацца, што такія людзі павінны мець бясстрашнае сэрца, неўтаймаваны дух, моцныя суставы".

## У ДЗЕНЬ ПАМЯЦІ АХВЯР ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ КАТАСТРОФЫ

Татарскае грамадска-культурнае аб"яднанне "Аль-Кітаб" даручыла мне выступіць на мітынгу, што прысвечаны адкрыццю памятнага каменя Чарнобыльскай катастрофы 26 красавіка 1991 года ў Мінску.

Аб гэтай падзеі газета "Знамя юности" 30 красавіка 1991 года пісала: "Ішлі дарогай памяці. Маўчалі. У чорны дзень 26 красавіка тысячы людзей прайшлі па вуліцах Мінска ў памінальным шэсці "Чарнобыльскі шлях"... У коле памінальных свечак прайшло адкрыццё памятнага знака "Ахвярам Чарнобыля". Каля шэрага каменя, які сімвалізуе магілу тых, хто загінуў і гіне ад радыеактыўнага абпрамянення, гучалі

малітвы чатырох рэлігій на чатырох мовах: беларускай, польскай, татарскай, яўрэйскай".

Ад грамадска-культурнага аб"яднання "Аль-Кітаб" на мітынгу было сказана: "Паважаныя мінчане! Слаўны і шматпакутны народ Беларусі! Пяць гадоў мінула пасля страшнай катастрофы чалавецтва. Здзіўляе, што да гэтага часу сусветная грамадскасць амаль не ведае аб прычынах і памерах страшных выбухаў 26 красавіка 1986 года на Чарнобыльскай АЭС. Толькі ўзаемнай дапамогай і павагай, міласэрнасцю, адраджэннем нацыянальных традыцый і духоўнай вартасці мы можам аблегчыць сваё становішча, у якім апынуліся ў сучасных умовах. Мінскае абласное грамадска-культурнае татарскае аб"яднанне "Аль-Кітаб", якое дзейнічае пад эгідай Беларускага фонду культуры,выказвае сваю павагу да памяці тых, ушанаваць каго мы тут сабраліся. Па меры сваёй магчымасці аб"яднанне "Аль-Кітаб" будзе дапамагаць у пераадоленні бяды, у адраджэнні веры і праўды, нацыянальных традыцый, здаровага духоўнага жыцця ў нашым грамадстве. Я прачытаў па-арабску самую папулярную ў мусульман суру з святога Кур"ана — "Аль-Фаціха": У імя Алаха, Міласцівага, Міласэрнага . Уся пахвала належыць Алаху, Уладыку ўсяго свету. Літасціваму, Міласэрнаму, Уладару Суднага Дня. Табе аднаму мы пакараемся і Цябе аднаго просім дапамогі. Скіруй нас на шлях праведны. Шлях тых, каго ты абдарыў сваімі дабротамі, тых, хто не наклікаў гневу Твайго, тых, хто не заблудзіў. Амінь.

# ПАКЛОН ІСМАІЛУ МЫРЗЫ ГАСПРАЛЫ І ЯГО РАДЗІМЕ

Дазвольце мне, прадстаўніку маскоўскай крымскататарскай навуковай інтэлігенцыі, звярнуцца да прысутных — арганізатараў і гасцей канферэнцыі, прысвечанай памятнай даце — 140-годдзю з дня нараджэння нашага вялікага суайчынніка Ісмаіла мырзы Гаспралы. Усведамляю, каб выказаць усю павагу да гэтага чалавека — нацыянальнай гордасці майго народа, тым не менш, мой абавязак — сказаць свае слова на роднай крымскататарскай мове — мове жыцця, творчасці, дзейнасці Ісмаіла мырзы /далей даецца пераклад з крымскататарскай мовы/.

Акрамя таго, што я — крымскі татарын, а вялікі гуманіст і асветнік — мой суайчыннік, што для мяне вялікі гонар, мяне абавязвае і тое, што светлай памяці Ісмаіл мырза прыняў удзел у лёсе майго бацькі — Асмана Ізідзіна, вясковага хлапчука, сіраты. Няхай будзе благаслаўлёны імя і памяць аб Ісмаіле Гаспралы!

Асселяму алейкум і міласць боская вам — дарагія суайчыннікі, паважанае панства ага-бейі, ханумы і таварышы! Віншую з пачаткам святога месяца Рамазана!

У пачатку вясны сардэчна запрашаю паважаных гасцей прыехаць у благаслаўлёны, шчодры і прыгожы Крым.

З удзячнасцю віншую арганізатараў нашай канферэнцыі! Вось ужо амаль паўстагоддзя Крым без сваіх крымскатарскіх дзяцей, і ў выніку гэтага пацьмянела яго прывабнасць, але ён, усё яшчэ цудоўны, казачны, не падобны ні на які куток свету — Радзіма нашай гордасці, вялікага грамадскага дзеяча, асветніка, рэфарматара навучання, які

шмат зрабіў для прагрэсу цюрка-мусульманскіх народаў Ісмаіла мырзы Гаспралы — вялікага чалавека, 140-годдзе з дня нараджэння якога мы адзначаем на міжнародным узроўні. Рахметула алейхі.

Хоць дні памяці Ісмаіла мырзы азмрочаны тым, што яго народ яшчэ не вярнуўся на Радзіму з месц варварскай, беспрэцэдэнтнай у гісторыі дэпартацыі, і гэта выклікае горыч, тым не менш — гэтыя дні, якія так доўга чакаў наш народ можна назваць радаснымі. Гэтыя дні радасныя і таму, што — хвала Аляху — наш народ збярог сябе і пачаў вяртацца ў Крым.

Я ад усёй душы шчыра віншую усіх маіх суайчыннікаў, якія як пасля цяжкой хваробы вярнуліся на сваю Радзіму. Жадаю ім, іх блізкім добрага здароўя, шчасця, бязмежных — як блакітнае неба і мора — гадоў жыцця.

Дзякаваць Богу, нарэшце, дажылі да гэтай пары. Няхай будуць прынятымі Богам вашыя пакуты за Радзіму.

З паклонам тысячу разоў дзякуй маім суайчыннікам за тое, што ў самых цяжкіх умовах, паклёпу і нечалавечага жыцця на чужыне яны захавалі нацыянальную годнасць, не адракліся ад Радзімы і ад прысягі вярнуцца на Радзіму. І, нягледзячы на розныя перашкоды, народ змог прачыніць дзверы, якія вядуць на Радзіму — і гэта вынік шматгадовай барацьбы народа, а не вынік перабудовы.

Жадаю вялікіх поспехаў маім суайчыннікам, якія ўжо жывуць у Крыме, ператварэння руплівай працай здзірванелых палеткаў у пудоўны сад.

Усяго добрага вам, суайчыннікі, на гэтым высакародным і цяжкім шляху па зямлі продкаў. Няхай жа дапаможа Бог вярнуцца на Радзіму ўсяму нашаму народу!

І ў той жа час, нават у радасныя дні памяці нашага вялікага Ісмаіла мырзы, мы не павінны забыць наш абавязак — заўсёды напамінаць нашым дзецям і ўнукам аб трагедыі крымскататарскага народа. На чужыне, нягледзячы на пакуты, душэўныя мукі разлукі з Радзімай, выгнанцы да апошняга дыхання верылі, што будзе канец гэтай жудаснай несправядлівасці, што яны вернуцца на Радзіму.

Змовім жа па святой веры дзядоў нашых малітву Аль-Фаціха за душы памёршых суайчыннікаў.

Дарагія суайчыннікі, госці, паважаныя арганізатары канферэнцыі! Няхай будзе дастойнай пахвалы канферэнцыя, прысвечаная 140-годдзю са дня нараджэння нашага вялікага суайчынніка — Ісмаіла мырзы Гаспралы! Шчырыя выступленні, гутаркі, абмеркаванні дабратворна паўплываюць на паляпшэнне міжнацыянальных адносін, на дружбу народаў. Пачынаючы з сённяшняга дня і наступныя дні работы канферэнцыі — таксама гістарычныя дні, паколькі яны з"яўляюцца вехай справядлівасці ў жыцці нашага народа, заваяванай доўгай і напружанай барацьбой, стануць гордай старонкай у гісторыі. Мы поўныя надзеяй, што гэта канферэнцыя выкліча і ўмацуе пачуццё годнасці, дазволіць народу лепш зразумець аб падобным на Чатырдаг сваім сыне — Ісмаіле мырзе Гаспралы, паколькі да апошніх гадоў яго імя, публіцыстычная дзейнасць, уплыў на цюрка-мусульманскі свет, дзейнасць на ніве асветы, збліжэнне цюркскіх народаў і развіццё іх культуры былі пад

забаронай, нават самая невялікая цікавасць да гэтага чалавека жорстка караліся.

Бог дапаможа, пачынаючы з сённяшняга дня будуць зроблены рэальныя крокі для асвятлення творчасці і дзейнасці Настаўніка крымскататарскага народа, і няма сумнення ў тым, што ў гэтай высакароднай працы наша канферэнцыя — першы значны крок, а ў далейшым гэта праца будзе сістэматычнай і ўсебаковай.

За гады Савецкай улады мы прыйшлі на край, за якім пачынаецца беспамяцтва, страта сувязі і пераемнасці з пакаленнем дзядоў і прадзедаў. Гэты трагізм крымскататарскага народа пачаўся з моманту заваявання і пакарэння Крыма, а ў гісторыі эканамічнага і палітычнага прыгнёту пасля Кастрычніка займае асобае месца, бо зробленае ў наступны перыяд не ідзе ні ў якое параўнанне з тым, што перажыў народ за папярэднія 134 гады. За гады Савецкай улады творчасці выдатнага чалавека-патрыёта Ісмаіла мырзы Гаспралы, яго дзейнасці не было прысвечана ні адной навуковай работы, ні адной якой-небудзь публікацыі ў СССР. Вось чаму мы вельмі ўдзячны ўсім нашым гасцям, якія прыехалі з мусульманскіх і хрысціянскіх рэспублік і краін, каб выказаць павагу Ісмаілу мырзе Гаспралы. Мы з нецярплівасцю чакаем сустрэч з гасцямі, выступленняў вучоных, спецыялістаў, інфармацыю аб новых фактах і невядомых нам крыніцах.

Прыміце нізкі паклон за добрыя думкі, цёплыя пачуцці да нашага вялікага суайчынніка — Ісмаіла мырзы Гаспралы, за тое, што вы адправіліся ў далёкі шлях на яго Радзіму, за тое, што ўнукам і праўнукам паказалі веліч гэтага сапраў-

ды вялікага чалавека. Тысячу разоў, з паклонам, дзякуй усім. Тым больш, што праводзім гэту канферэнцыю з вашым удзелам тады, калі ў жыцці майго крымскататарскага народа заблішчэла святло вяртання на Радз"му, калі з"явілася надзея на яго адраджэнне, пасля праклятых гадоў прыніжэння духоўнай, нацыянальнай культуры і мовы.

У час, калі мова, культура, традыцыі майго народа знаходзяцца на грані знікнення і стаіць пытанне аб існаванні крымскіх татар як этнаса, юбілей Ісмаіла мырзы Гаспралы, міжнародная канферэнцыя яго памяці безумоўна вельмі важная падзея і будзе светлай старонкай у гісторыі барацьбы народа.

Няхай жа канферэнцыя і курултай, які мае адбыцца, будуць дастойнай падзеяй у адраджэнні нацыянальнай культуры, вяртанні народа на сваю гістарычную радзіму, вяртанне сваіх правоў, якія дадзены яму ад нараджэння Богам, і ніякі Урад не можа іх адабраць.

Але нам, усім маім суайчыннікам, трэба заўсёды памятаць запавет: "Дзільдзе, фақірдзе, іше бірлік" /"З адзінай мовай яднанне ў сэрцах, думках і справах"/. Прытрымліваца гэтага запавету — значыць не стварадь асобныя групоўкі ў нацыянальным руху, непаразуменні паміж рознымі грамадамі і арганізацыямі, пакласці канец амбіцыям. Калі мы дзеля вялікай мэты народа не зробім гэтага, то не заслужым падзяку нашчадкаў, а тых, хто знарок або незнарок будзе рабіць шкоду агульнай справе — народ пракляне.

Каб быць дастойнымі ўнукамі і праўнукамі Ісмаіла мырзы Гаспралы, каб быць суайчыннікамі гэтага вялікага чалавека. Мы -- дома ці на рабоце, дзе мы ні былі і што б мы ні

рабілі — кожны крок, кожны рух, жаданне, учынак павінны рабіць так, каб гэтыя дзеянні не закранalі годнасць народа, не прыніжалі яго ў вачах іншых.

Дык давайце ж, дарагія суайчыннікі, зробім так, каб наша вера, нашы нацыянальныя традыцыі, маральна-этычныя нормы паводзін сталі не толькі прадметам павагі, але і ўвайшлі як неад"емнае ў нашы душы і сэрцы! Будзьма чалавечнымі, міласэрнымі, сціплымі, адкінем зайздрасць, што знаходзіцца ў суседстве з брудам у душы і лянотай, возьмем у праваднікі гонар і сумленне. Давайце ж, як дастойныя сыны і дочкі, будзем шанаваць нашых старэнькіх бацькоў. Давайце ж у цяжкія часіны спяшацца на дапамогу адзін аднаму, не забывайце аб цяжкіх часінах у дні дабрабыту, у клопатах аб даходах не дамо стаць нашым дзецям на шлях невуцтва. Спяшаймася рабіць дабро і помніць аб ім. Пры стварэнні сям"і нашым прыгожым юнакам і дзяўчатам не забываць пра нашу веру, уберагчы нашых малалых ад пустога, смецця і сённяшняй заразы, як нашы бацькі і дзяды паважаць высокаадукаваных людзей.

Дзеля нашага народа, які так многа пакутваў і пакутуе сёння, дзеля яго будучыні, дзеля высакароднай памяці нашага Настаўніка Ісмаіла мырзы — будзьма цярплівымі, працавітымі жыць у павазе і любові адзін да аднаго.

Няхай жа наша Радзіма — Крым — будзе квітнеючым садам, няхай умацуецца дружба, узаемадапамога, міласэрнасць і яны будуць асноўным законам. Сярод тых, хто прысвяціў жыццё, увесь свой прыродны дар і талент увасабленню гэтых агульначалавечых і мусульманскіх нормаў быў наш гонар Ісмаіл мырза Гаспралы. Рахметула алейкі /"Няхай жа дарує Алах прабачэнне і міласэрнасць"/.

# ГЕНЕРАЛ МАЦЕЙ СУЛЬКЕВІЧ

Мацей Сулькевіч паходзіць з літоўскіх татараў. Яго бацька, Аляксандр Сулькевіч, падпалкоўнік рускага гусарскага палка, маці, Разалія, з роду Сабалеўскіх. М. Сулькевіч нарадзіўся 20 чэрвеня 1865 года ў радавым маёнтку Кямейшы Лідскага павета; яго імя было ўпісана ў метрычныя кнігі мусульманскай парафіі ў Некрашунцах. Вайсковую адукацыю будучы генерал атрымаў у Расіі ў Варонежскім кадэцкім корпусе, затым у Міхайлаўскай артылерыйскай школе і, нарэшце, у Акадэміі Генеральнага штаба, якую скончыў у 1894 г. З 1883 года Сулькевіч на службе ў рускай арміі, у 1886 годзе яму прызначаны афіцэрскі чын падпаручніка. У кастрычніку 1910 года атрымлівае намінацыю генерал-маёра, а ў красавіку 1915 года — генерал-лейтэнанта. Ён займаў шэраг адказных пасад у рускай арміі: у чыне падпалкоўніка ўдзельнічаў у вайне з Кітаем /1900—1901 гг., прымаў удзел у падаўленні "баксёрскага паўстання"/; у чыне палкоўніка — у руска-японскай вайне /1904—1905 гг./; на пасадзе начальніка штаба 15-й пяхотнай дывізіі, а затым камандзіра Модлінскага пяхотнага палка. У час гэтай кампаніі быў адзначаны сярод іншых узнагарод таксама залатой шпагай "За адвагу".

Да чэрвеня 1910 года Сулькевіч камандаваў Модлінскім пяхотным палком, які ў мірны час знаходзіўся ў Адэсе. У пачатку Першай сусветнай вайны 1914 года Сулькевіч быў на пасадзе начальніка штаба 7-га пяхотнага корпуса, якую ён займаў пасля 2-гадовай службы ў Сібіры, дзе служыў генералам-кватармайстрам Іркуцкай Ваеннай Акругі. Вайну Сулькевіч пачаў начальнікам штаба корпуса, а з 25 лютага 1915 года стаў

камандзірам 33 дывізіі пяхоты, з сакавіка 1917 года ён камандзір 37-га пяхотнага корпуса Паўночнага фронту. Сваю службу ў рускай арміі генерал скончыў у 1918 годзе на пасадзе камандзіра 1-м Мусульманскім корпусам. Фарміраванне яго пачалося па ініцыятыве Сулькевіча на Румынскім фронце ў другой палавіне 1917 года.

Як военачальнік генерал Сулькевіч быў адным з найбольш таленавітых афіцэраў Генеральнага штаба, вылучаўся выдатнымі арганізатарскімі і тактычнымі здольнасцямі; ён адыграў важную ролю ў падрыхтоўцы воінаў Адэскай акругі, дзе працаваў некалькі гадоў. Дзякуючы яму манеўры, ваенныя вучэнні атрымалі шырокую вядомасць. Сулькевіч надрукаваў два тамы сваіх распараджэнняў і ўказанняў, вядомых не толькі ў рускай арміі, генерал цікавіўся і мусульманскай праблемай. У 1902 годзе ў Адэскай вайсковай тыпаграфіі ён надрукаваў працу польскага ўсходазнаўца А. Мухлінскага "Даследаванні аб паходжанні і стане літоўскіх татараў".

Незадоўга да пачатку Лютаўскай рэвалюцыі ў Расіі генерал Сулькевіч уступае ў зносіны з Цэнтральным камітэтам /так званым "Аскеры Шуро" з цэнтрам у Казані/, які быў абраны ў Маскве ў маі 1917 г. на Усерасійскім з"ездзе Мусульманскіх вайсковых арганізацый, і пачынае фарміраванне на Румынскім фронце 1-га Асобнага Мусульманскага Корпуса. Распараджэнне яго наконт 3-х мусульманскіх дывізій было надрукавана ў свой час у "Известиях" Усерасійскага мусульманскага Савета.

Можа, у душы генерал спадзяваўся на тое, што мусульманскі корпус будзе ў Крыме ці Казані нацыянальнай апорай мусульманскіх дзяржаў. Гэты корпус фарміраваўся ў Ясах з афіцэраў і радавых салдат-мусульманаў рускай арміі. У сакавіку

1917 года корпус быў перадыслацыраваны ў Цірасполь. Адбыўся Кастрычніцкі пераварот у Петраградзе. Паміж бальшавікамі і крымскім урадам пачалася вайна. "Аскеры Шуро" загадала генералу Сулькевічу пайсці з войскам на дапамогу мусульманам у Крым, але ён не змог выканаць загад з прычыны перашкоды, якую чыніла нямецкая армія.

Мусульманскі корпус быў раззброены па загадзе нямецкага камандавання вясной 1918 года, а сам генерал прыбыў у Крым са жменькай афіцэраў. Тут ён, са згоды нямецкага камандавання, стварыў Крымскі Урад, у якім заняў адначасова пасады прэм"ер-міністра, міністра арміі і флоту і міністра ўнутраных спраў Крыма. Астатнія пасады ў Савеце Міністраў размеркаваліся наступным чынам: міністрам замежных спраў стаў старшыня крымскататарскага парламента Джафар Сейдамет, міністрам юстыцыі — літоўскі татарын Аляксандр Ахматовіч, фінансаў — рускі Нікіфараў, прамысловасці і гандлю — рускі Нікіцін, акрамя іх, у склад урада ўвайшоў у якасці міністра сельскай гаспадаркі і забеспячэння прадстаўнік абшчыны немцаў-каланістаў; на пасаду сакратара быў прызначаны армянін Налбандаў. Створаны генералам урад меў кааліцыйны характар з пэўным уплывам мусульманаў. Пасля перастаноўкі ўнутры кабінета прэм"ер Сулькевіч, а таксама Ахматовіч, Сейдамет, Фрыман, Нікіфараў і Нікіцін захавалі былыя пасады, у той час як на пасаду міністра сельскай гаспадаркі быў прызначаны крымскі татарын Мустафа Мірза Кіпчацкі, асветы — генерал Чарнкаў, арміі — літоўскі татарын генерал Аляксандр Мількоўскі, забеспячэння — паляк Данброва, дзяржаўнай маёмасці — літоўскі татарын Багушэвіч. Кіраўнік урада праводзіў палітыку незалежнасці Крыма.

25 чэрвеня 1918 года генерал Сулькевіч сфарміраваў урад. У дэкларацыі ён заявіў, што лічыць галоўнай сваёй задачай ахову самастойнасці Крымскага паўвострава да высвятлення міжнароднай сітуацыі. У арганізацыйных пытаннях Сулькевіч імкнуўся да склікання Крымскага меджліса /Сойма/. Прызнаючы аўтаномію крымскіх татараў у пытаннях рэлігійных і культурных, працуючы ў кантакце з крымскататарскім парламентам /курултаем/ і яго камісіямі, ён адначасова заявіў, што дзяржаўныя пытанні найбольшага значэння, якія датычацца палітычнага ладу Крыма, павінны быць вырашаны Соймам Крыма. Да склікання Сойма генерал сам выдае шэраг пастаноў, у тым ліку: аб крымскім грамадзянстве, аб забароне іншаземцам купляць зямлю, уладальнікамі якой з"яўляюцца крымскія грамадзяне, аб вакуфах /вакуфны землі былі ўзяты з дзяржаўнага ўпраўлення і перададзены камісіям па рэлігійных праблемах Татарскага парламента/, аб арганізацыі Сената і апеляцыйнага з"езда, аб рээміграцыі /вялікая колькасць крымскіх татараў рускі урад выгнаў у Турцыю пасля 1783 года і пасля 1856 года/, аб стварэнні асобных міністэрстваў і г.д.

У час праўлення генерала Сулькевіча ў Крыме быў заснаваны універсітэт у Сімферопалі. У той жа час фарміраванне збройных сіл, якое распачаў прэм"ер Сулькевіч, атрымала сур"ёзную перашкоду з боку нямецкага камандавання /генерал Кох/ у Крыме, з прычыны чаго армія Крыма складалася з невялікага атрада салдат. Генерал Сулькевіч стараўся зглядзіць канфлікт між татарамі і грэкамі. Сулькевіч не прызнаваў гегемоніі аднаго народа над другім. Ён імкнуўся сфарміраваць такія адносіны між народнасцямі шматплямённага Крыма /татары, украінцы, рускія, грэкі, немцы, палякі, яўрэі,

караімы, армяне і інш./, якія б грунтаваліся на ўзаемнай павазе і раўнапраўі. Менавіта таму ў складзены ім кабінет увайшлі прадстаўнікі розных нацыянальнасцей. Адначасна органы кіравання фарміраваліся на нацыянальнай прыкмеце, на пасадах павятовых старастаў, камандзіра корпуса пагранічнай аховы, камісараў паліцыі, старшынь і членаў самаўправы прызначалі мусульманаў, сярод якіх быў значны працэнт літоўскіх татараў.

На міжнароднай арэне генерал Сулькевіч праводзіў палітыку абароны Крыма ад Украіны, якая мела намер уключыць /інкарпарыраваць/ яго у свой склад, і ад рускай Добраахвотнай арміі генерала Аляксеева, які імкнуўся ўключыць Крым у склад "единой и неделимой" Расіі. Генерал адкінуў прапановы Аляксеева, адначасова, каб умацаваць міжнароднае становішча Крыма і пакласці канец мытнай вайне з Украінай, ён пасылае ў Кіеў па запрашэнню украінскага ўрада /на чале з генералам Скарападскім/ дэлегацыю на чале з сенатарам і міністрам Ахматовічам /верасень 1918 года/. Гэта дэлегацыя вяла перамовы са спецыяльнай украінскай дэлегацыяй на чале з міністрам Лізагубам, пры гэтым прадстаўнікі Крыма абаранялі ідэю незалежнасці сваёй дзяржавы. Гэтыя перамовы ўвайшлі ў дыпламатычную "Блакітную кнігу".

Важнай падзеяй у міжнароднай палітыцы ўрада была адпраўка пасла ў Стамбул. Ім стаў былы галоўны рэдактар татарскай газеты "Мілет" Сабры Айвазаў. Ён быў з энтузіязмам прыняты турэцкім урадам. Сам факт адкрыцця пасольства ў Стамбуле выклікаў перапалох у Берліне, куды ў свой час быў пасланы прадстаўнік Крымскага ўрада — Джафер Сейдамет. Там ён дабіўся разам з візірам Турцыі Талат-пашой адтэрміноўкі рашэн-

ня аб закрыцці гандлёвай граніцы Украіны. Было дамоўлена, што на мірную канферэнцыю пасля заканчэння вайны будзе дапушчаны і Крым.

Адначасова генерал Сулькевіч уступіў у зносіны з іншымі мусульманскімі дзяржавамі на тэрыторыі былой Расійскай імперыі. З гэтай мэтай быў адасланы адпаведны ліст ваеннаму міністру рэспублікі Азербайджан / г.Баку/. Як кіраўніка дзяржавы генерала Сулькевіча з энтузіязмам віталі Татарскі Парламент, татарскі народ і мусульманская прэса /"Крым", "Мілет"/. Светлая памяць аб "Сулеймане-пашы", так яго называў татарскі народ, назаўсёды застанецца сярод мясцовых мусульманаў. У сувязі з прыездам Сулькевіча ў Крым, людзі расказвалі легенду, згодна з якой пасля падзення ўладарання Расіі ў Крыме, прыйдзе з поўначы мусульманін, які скіне ярмо няволі, імя гэтага вызваліцеля Крыма — Сулейман-паша.

У той жа час рускія, асабліва газета народных дэмакратаў "Товарищеский голос" пад рэдакцыяй Пасманіка, зрабілі Сулькевіча аб"ектам нападак. Прэм"ер зносіў іх цярпліва, не помсціўся. Найбольш характэрнай рысай урада Сулькевіча была гуманнасць: ён быў дэмакратам у поўным сэнсе гэтага слова. Таму не меў рацыі генерал Дзянікін, калі вінаваціў прэм"ера Крыма ў імкненні ўзнавіць ханства і заручыцца падтрымкай Азербайджана, каб задаволіць свае намеры.

Пасля таго, як з Крыма эвакуіравалася нямецкае войска /кастрычнік 1918 г./ і паўвостраў быў заняты Добраахвотнай арміяй, урад Сулькевіча паў, праіснаваўшы толькі некалькі месяцаў. Спробы былога прэм"ера пераканаць кіраўніцтва Антанты ў неабходнасці сфарміравання мусульманскага корпуса

з мусульман Расійскай імперыі, раскіданых па лагерах ваеннапалонных у краінах Еўропы, не мелі выніку, і Сулькевіч пад даўленнем з боку камандавання Добраахвотнай арміі вымушаны быў пакінуць Крым.

Пасля прыезду ў Азербайджан, ён у канцы 1918 года быў прызначаны на пасаду начальніка Генштаба азербайджанскай арміі, прымаў актыўны ўдзел у арганізацыі ўзброеных сіл гэтай дзяржавы.

Сулькевіч — адзін з ініцыятараў перамір"я Грузіі і Азербайджана /чэрвень 1919 г./. Пасля сутыкнення з Добраахвотнай арміяй і ўварвання яе атрадаў у Азербайджан, ён раззбройвае захопнікаў, стаўшы на чале спецыяльна створанага з гэтай мэтай камітэта. Калі ў канцы снежня 1919 г. ў Баку прыехаў прадстаўнік польскага ўрада ў Грузіі, Арменіі і Азербайджане пан Вацлаў Астроўскі, генерал Сулькевіч разам з іншымі заходнімі мусульманамі /віцэ-міністрам юстыцыі Альгердам Крычынскім, віцэ-дырэктарам нацыянальнай МЗС Канстанцінам Сулькевічам/ прымаў удзел у банкеце ў гонар дэлегацыі, які наладзіў старшыня польскай дэлегацыі ў Баку адвакат Крыпскі. Там генерал выступіў з прамовай, у якой праслаўляе гістарычную дзейнасць Польшчы на Усходзе. Не раз генерал Сулькевіч падкрэсліваў, што паходзіць з Віленшчыны і з усёй душой адносіцца да Польшчы.

У маі 1920 года, пасля таго, як ІІ-я армія бальшавікоў уварвалася ў Азербайджан, генерал Сулькевіч быў арыштаваны і кінуты ў сутарэнне бакінскай ЧК. Ён знаходзіўся там разам з будучым паслом Польшчы ў ЗША Цітусам Філіповічам. 15 ліпеня 1920 г. генерал Сулькевіч быў забіты чэкістамі. Некаторыя

звесткі аб яго арышце і апошніх хвілінах жыцця расказаў былы начальнік агульнага аддзела дыпламатычнага дэпартамента МЗС Азербайджанскай Рэспублікі пан Мечыслаў Рудзінскі, які таксама быў пасаджаны ў турму бальшавікамі: "28 красавіка 1920 г. бальшавікі захапілі ўладу. Я разам з польскай місіяй быў арыштаваны, праз некалькі дзён нас перавезлі ў ЧК. Ускорасці прывезлі генерала Сулькевіча, ён быў песімістычна настроены, лічыў, што яго расстраляюць. Я часта з ім гутарыў, бо мы ўсе былі ў адной камеры. Спачатку спалі на падлозе, паклаўшы пад галаў замест падушкі кіпу газет, пазней зрабілі нары. Некалькі тыдняў пасля, ранкам, калі было яшчэ шэра, чэкісты ціха разбудзілі некалькі чалавек і загадалі ім збіраць рэчы. Мы ўсе прачнуліся. Чэкісты падганялі, не кажучы, куды забіраюць вязняў. Генерал Сулькевіч паспеў некаторым з нас паціснуць руку. Развітваючыся, быў упэўнены, што яго расстраляюць. Мы казалі яму словы падтрымкі, самі не ведаючы, што ўсё гэта значыць. Генерал трымаўся прыстойна і мужна. Праз некалькі дзён мы прачыталі ў газетах паведамленне ЧК аб расстрэле некалькіх чалавек, абвінавачаных у "контррэвалюцыйнай дзейнасці". Сярод іх быў і генерал Сулькевіч. Наколькі я памятаю, па справе генерала не было ні следства, ні суда". Аб іншых падрабязнасцях, звязаных з апошнімі хвілінамі жыцця генерала Сулькевіча сведчыць генерал Расул-задэ: "Я ўпершыню перакажу тое, што чуў ад свайго брата — члена парламента Мехмеда Алі-бея, сведкі гераічнай смерці бясстрашнага генерала Сулькевіча. Мехмед Алі-бей так расказвае аб гэтым: "Генералу загадалі, каб ён ішоў за чэкістамі. Мы зразумелі, што настаялі апошнія хвіліны яго жыцця, што яго адпраўляюць "у расход" — на смерць. Настала магільная цішыня,

мы не маглі глядзець яму ў вочы, не знаходзілі слоў надзеі і атухі. Апярэдзіў нас сам генерал, спакойным голасам сказаў памятныя нам словы: "Я рады, што гіну як афіцэр. Бывайце!". Такі пакінуў гэты свет вялікі палітычны дзеяч, чалавек нязломных перакананняў і энергіі, адзін з найвялікшых дзеячаў літоўскіх татараў. Крывёю заплаціў генерал Сулькевіч за свае грандыёзныя планы, але яго справы будуць жыць вечна, як цудоўны прыклад бязмежнай адданасці справе татарскага народа.

## Аб"ява

У Крыме, у Бахчысараі выдаецца на рускай мове газета "АВДЕТ", што на беларускай мове абазначае вяртанне. Гэта незалежная газета аб праблемах крымскіх татараў. Выходзіць 2 разы на месяц. Падпісчыкам на Беларусі дасылаецца у паштовым канверце. Кошт гадавой падпіскі 26 рублёў.

Адрас рэдакцыі газеты: 334410, Крым, г.Бахчисарай, ул. Пушкина, 17. Редакция газеты "АВДЕТ"

На паштовым пераводзе чытэльна напісаць свой адрас.

Падтрымайма нашых братоў!

Гістарычны і грамадска-палітычны часопіс "ВАТАН" выходзіць на крымскататарскай, рускай і турэцкай мовах. Слова ВАТАН абазначае Айчына. Выходзіць кожны месяц. Грошы /25 рублёў за гадавую падпіску / можна выслаць паштовым пераводам на адрас: 334871, Крым, Феодосия. пгт Приморский, 11/4, Редакция журнала "ВАТАН". Укажыце, на якой мове дасылаць часопіс. Свой адрас пішыце поўнасцю і чытэльна.

## АДКРЫЦЦЁ МЯЧЭЦІ

5 ліпеня 1991 года для літоўскіх татар памятны дзень — яны дачакаліся адкрыцця старой мячэці ў Каўнасе. Гэта будзе чацвёртая мусульманская святыня на зямлі Літвы. Іншыя тры мячэці знаходзяцца ў вёсках Райжяй Алітускага раёна, Сорак Татар і Нямежыс Вільнюскага раёна.

Каўнаская мячэць была пабудавана ў 1930 годзе, у 500-годдзе смерці Вутаўтаса — вялікага князя Вялікага княства Літоўскага.

Літоўскі ўрад, помнячы ролю татар у справе барацьбы Літоўскай дзяржавы за сваю незалежнасць на працягу некалькіх вякоў, вырашыла на месцы старой драўлянай мячэці пабудаваць у горадзе Каўнасе новую, цаглянуя.

На будаўніцтва мячэці Літоўскім урадам было выдзелена 50 тыс. літаў, самі ж вернікі-татары сабралі 40 тыс. літаў. Пабудаваная і асвячоная мячэць паслужыла нядоўга — бальшавікі яе закрылі ў 1941 годзе. І чым толькі не была мячэць: спартыўны зал, склад цырка, дзіцячая бібліятэка-чытальня, а ў апошнія гады там вырашана было зрабіць музей арыенталістыкі. Слава Алаху, гэта не адбылося. І старая мусульманская святыня вяртаецца яе сапраўдным гаспадарам — літоўскім татарам.

Літоўскія татары даўно марылі вярнуць свой храм, і ў 1989—1990 гадах такая магчымасць здарылася. Улады Каўнаса і музей мастацтва імя К. Чурлёніса згадзіліся перадаць Каўнаскую мячэць татарскай абшчыне горада Каўнаса. З самага пачатку 1990 года пачалася рэстаўрацыя мячэці. Сродкі для



*Вялікі Князъ ВІТАЎТ*

/ З кнігі "Кароткі агляд гісторыі Беларусі" /

Клівленд -- Нью-Ёрк -- Талін

1990

У татарскіх "Аль-Кітабах" яго называлі Спадаром, Ханам, Ватадам, Апорай Ісламу на Захадзе.

рэстаўрацыі выдзелілі музей мастацтва імя К. Чурлёніса і Каўнаскае гарадское Самакіраўніцтва. Рэстаўрацыя працягвалася прыкладна паўтара года.

Таварыства культуры Літоўскіх татар разаслала запрашэнне наступнага зместу:

"Паважаны спадар /паважаная спадарыня/ На Зямлі Літвы на працягу шасці стагоддзяў жыве ўнікальная этнічная група літоўскіх татар, якія вызнаюць іслам, дзейнічаюць мячэці. Цяпер у Літве паявіліся мусульмане і іншых нацыянальнасцей. 5 ліпеня 1991 года ў Каўнасе адбудзецца ўрачыстае адкрыццё аднаўленай мячэці, якую збудавау татарам у 1930 годзе ўрад незалежнай Літвы ў 500-годдзе са дня смерці Вялікага Літоўскага князя Вітаўтаса, пасяліўшага татар у Літве ў 1397 годзе.

Урад Літоўскай Рэспублікі, Літоўскі Фонд культуры і Таварыства культуры літоўскіх татар запрашаюць Вас на адкрыццё Каўнаскай мячэці і спадзяюцца, што Ваш удзел у гэтай урачыстасці паслужыць адраджэнню мусульманскай рэлігіі ў цэнтры Еўропы, дзе гэта рэлігія даказала сваю жыццеўстойлівасць і ўнесла значны ўклад у гісторыю Літвы.

Дэпартамент па справах нацыянальнасцей пры Урадзе Літоўскай Рэспублікі.

Літоўскі Фонд культуры

Таварыства культуры літоўскіх татар".

На ўрачыстасці адкрыцця Каўнаскай мячэці прымалі ўдзел госці з Латвіі і Эстоніі, Беларусі, Татарстана, Крыма, Масквы, Пецярбурга. Запрошаны былі таксама госці з Турцыі, Катара,

Фінляндыі, ЗША і іншых краін, дзе пражываюць нашы татары-адзінаверцы.

Ва ўрачыстасці прыняў удзел Муфцій Талгат Таджудзін, імам з Масквы, Таліна. Сярод гасцей былі таксама два імамы з Польшчы — імам Гданьскай мячэці Бякір Якубоўскі і імам Багоніцкай мячэці Мустафа Ясінскі. З Венгрыі прыехаў вядомы цюрколаг Генрых Янкоўскі, татарка-журналістка з Дабруджы /Румынія/ пані Сеўгін Омер, віцэ-консул Турцыі ў Маскве пан Уміт Ярдым, прадстаўнікі пасольства з Іарданскага Хашыміцкага Каралеўства, госці з Вялікабрытаніі.

ІІ гадзін 30 мінут. Каля мячэці, у парку Рамібес, пачынаецца ўрачысты мітынг, прысвечаны адкрыццю Каўнаскай мячэці. Мітынг адкрывае старшыня Каўнаскага аддзялення культуры літоўскіх татар, дацэнт Каўнаскага Палітэхнічнага Універсітэта Йонас Рыдзванавічус. Ён вітае ўдзельнікаў мітынгу, коратка распавядае гісторыю Каўнаскай мячэці, прадстаўляе гасцей. Пасля выступалі госці, прадстаўнікі розных дэлегацый. З прывітальным словам выступілі: Муфцій Талгат Таджудзін, намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Літоўскай Рэспублікі Чэславас Станкявічус, старшыня Мусульманскага Рэлігійнага Саюза Польшчы Стэфан Мухарскі, віцэ-прэм"ер Літоўскай Рэспублікі Зыгмас Вайшвіла, віцэ-консул пасольства Турцыі ў Маскве Уміт Ярдым, прэзідэнт грамадска-культурнага аб"яднання татар Беларусі Абубякір Шабановіч, госці з Крыма, Пецярбурга.

Усе прамоўцы жадалі, каб Каўнаская мячэць больш ніколі не зачыняла свае дзверы для вернікаў, каб іслам на літоўскай зямлі адрадзіўся і мацнеў, каб літоўскія татары зноў набралі сваю былую славу.

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ АБ МЕНСКІХ ТАТАРАХ

З часопіса "Наш край", 1927 г., № 6—7/

Аб менскіх татарах мы ня ведаем якой-небудзь друкаванай працы, — ані гістарычнай, ані этнографічнай.

Між тым татары ў Менску жывуць ужо некалькі вякоў. Ужо адна назва "Татарскі канец" у Менску пераносіць нас у далячыню мінуўшчыны.

Але сказаць што-небудзь вычарпаюча-пэўнае аб тым, калі, як і чаму зьявіліся тут татары, пакуль што немагчыма.

Няма дакумэнтальных крыніц.

Першая вестка аб менскіх татарах сустракаецца ў прывілеі караля Жыгімонта Ш менскім мяшчанам 26 мая 1606 г., адкуль відаць, што ў той час татары менскія не падлягалі мейскай мяшчанскай юрысдыкцыі і Майдэборскаму праву, дзеля чаго на іх не пашыраліся мяшчанскія правы і льготы[1].

Другі вядомы нам дакумэнт дадае новую рыску ў гэтым пытаньні.

1617 г. 26 студзеня кашталян менскі Пётра на Лагойску Тышкевіч па даручэньні караля Жыгімонта Ш даходзіў у Менску зробленыя апошняму адаказ на менскіх татар.

Нейкія асобы, прозьвішчаў якіх, на жаль, няма ў дакумэнтах, пасьведчылі, што, няпраўна захапіўшы пляц Менскай Ускрасенскай царквы, менскія татары пабудавалі на гэтым пляцы сваю мячэць.

З пільнасьцю узяўся за гэтую справу Тышкевіч.

Татары ня толькі аднастайна паказалі, але і дакумэнтамі падмацавалі свае словы, што яны гэты пляц вышэйназванай Ускра-

[1] Собрание древних грамот и актов городов Минской губернии, православных монастырей, церквей и по разным предметам. Минск, 1848 г., стар. 108.

сенскай царквы набылі шляхам "добрае замены" ад ускрасенскага папа Сьцяпана.

Татары прадставілі належны ліст на гэтую замену, а да гэтага і пісьмовыя зацьвярджэньні яго, якія мелі менскія татары ад ужо памёршых мітрапалітаў: Міхайлы Рагозы /1590—1599 г.г./ і Іпата Папея /1599—1613 г.г./, а такоама і ад тагачаснага мітрапаліта Язэпа Веляміна Руцкага.

Разгледзеўшы па даручэньні караля гэтую справу, Пётра Тышкевіч знайшоў правы татар даведзенымі і выдаў ім у Менску 26 студзеня 1617 году свой ліст, у якім апраўдвае татар ад выказанага супроць іх абвінавачаньня.

У тым-жа годзе гэты ліст быў запісаны у актавыя гродзкія кнігі Менскага замку /8 верасьня 1617 году/.

Прынёс для запісу гэты акт менскі татарын Саліман Зецкевіч[1].

Прыведзены дакумэнт сьведчыць, што у Менску татары бязумоўна былі у канцы ХУІ сталецьця, што яны пабудавалі мячэць сваю у Менску у часы мітрапаліта кіеўскага Міхайлы Рагозы, які быў на гэтай пасадзе з 1590 па 1599 г.

Прымаючы пад увагу, што мячэць павінна была будавацца у сувязі з нейкімі надзвычайнымі абставінамі, напрыклад, з пасяленьнем у гэты час у Менску татар /гэта нам якраз і здаецца больш за усё верагодным/, мы лічым, што маем тут перад сабою магчымую дату зьяўленьня татар у Менску і засяленьня імі "Татарскае Слабады".

Але-ж гэта усё-ткі толькі магчымая, а не бясспрэчная дата.

Такім чынам, пытаньне аб часе зьяўленьня у менску татар пакуль што застаецца адчыненым.

---

[1] Там-жа. Стар. 168—169, № 93.

Трэба дадаць да гэтага, што паміж менскіх татар існуе паданьне, быццам яны паходзяць з крымскіх ваеннапалонных.

Не затрымліваючыся на гістарычных лёсах менскіх татар, мы ставім заданьнем азнаёміць чытачоў "Нашага Краю" з сучаснасьцю гэтае часткі менскага насельніцтва.

Напершае, трэба адзначыць, што менскія татары ў шмат якіх абставінах свайго жыцьця кіруюцца "коранам", які яны называюць "куран".

"У сям'і Смайкевічаў ёсьць коран 1725 году. Ёсьць у іх і "Ай-Кітаб" 1812 г. /гэтую дату атрымаў профэсар Раўрэбэ, перавёўшы на наша летазьлічэньне 1230 год мусульсанскае эры, бо прыняў пад увагу розьніцу ў колькасьці дзён паміж усходнімі месячнымі і нашымі сонечнымі гадамі/.

Менскі паасобнік корану 1725 г. мае пры арабскім тэксьце падрадковы пераклад на беларускую мову з значнаю колькасьцю полёнізмаў.

Ай-Кітаб — гэта зборнік легенд і паданьняў, здаецца, таксама перакладзеных або наогул большаю часткаю ці нават цалкам запазычаных з розных крыніц. У паасобніку 1812 году ёсьць толькі тэкст на беларускай мове, даволі чыстай, бяз прыметнага чужаземнага ўплыву.

Аўтару гэтых радкоў удалося, знайшоўшы вышэйпамянёныя кнігі, адразу-ж зьвярнуць на іх увагу вядомага сэмітолёга, профэсара Б.Д. У. Раўрэбэ.

Прагледзеўшы гэтыя кнігі, мы прыйшлі да выніку, што і ў часе так званага беларускага заняпаду наша мова жыла яшчэ нават у якасьці літаратурнай, толькі ня ў хрысьціянскага насельніцтва, а сярод мусульман.

Карыстаючыся арабскімі літарамі, можна добра перадаваць

беларускія гукі: ць, ц, дзь, дз, дж, а для ч і п ужываюцца нейкія адмены арабскіх знакаў /падобныя якім можна знайсьці ў пэрсаў ды туркаў/.

Гэты факт — карыстаньне мусульманскіх пісьменнікаў беларускаю моваю, — высьвятляе наогул стан асыміляцыі, якой падлягала татарская нацыяншасьць, калі яна пачынала жыць паміж беларускага народу.

Менскія татары найбольш адрозьніваюцца ад суседзяў у рэлігійных адносінах. На гэта зьвярнуў увагу яшчэ Шпілеўскі ў сваім апісаньні Менску, якое друкавалася ў часопісе "Современник" за 1854 год.

Шпілеўскі апісвае драўляную мячэць у Менску. У ёй два аддзелы: для мужчын і для кабет, паміж імі краты; унутры няма ніякіх аздоб, апроч бальдахіну для муллы ў мужчынскім аддзеле; падлога заслана зялёным сукном, а пры сьценах ёсьць зэдлікі для багамолаў.

Апроч таго, ёсьць яшчэ нешта падобнае да перадпакою, дзе татары пакідаюць абуткі, бо нямозна ўваходзіць у мячэць у ботах.

Фотографічны здымак з старое мячэці захоўваецца ў сям'і Смайкевічаў; мячэць была сфотографавана ў самым пачатку XX сталецьця, перад тым, як яе замянілі новым ды без параўнаньня лепшым цагляным будынкам.

Цяпер у мячэці ёсьць і мінарэт, а даўней муэзьзін склікаў парафіян на малітву, стоячы на ганку мячэці. На сьвята Байраму мусульмане ў некаторых мясцовасьцях, як здаецца, склікаюцца на вуліцах, што дасьледчык гісторыі і быту беларускіх татар А. Мухлінскі хацеўбы тлумачыць яўрэйскім уплывам.

У Менску татар ня шмат і кажуць, што такога звычаю ў іх няма. Прынамсі менскія татары мне сказалі, што яны гэтага ня помняць.

Ніякага ізоляваньня жанчын ад мужчын у нашых татар няма. Аб "чадрах" не засталося нават і ўспаміну. Цікава, што ў "ходжаў" /пілігрымаў у сьвятыя месцы/ вучыліся паарабску і дзяўчаты і хлапцы разам; аб гэтым мне гаварылі старыя татары.

Наагул пагляд на рэлігію лібэральны. У сям'і Смайкевічаў ёсьць, напрыклад, статуэткі, а нябожчык мулла Мустафа Смайкевіч ды парафіяне былі нават сфотографаваны. А гэта сурова забараняецца мусульманскім законам.

З рэлігійных наказаў мусульманскае навукі ў быце менскіх татар захавалася далёка ня ўсё. Вось што гаворыць аб гэтым іх старэйшае пакаленьне.

Супольная мусульманам і яўрэям забарона ўжываць мяса іншых ссуноў, апроч жвачных — парнакапытных, іншых рыб, апроч лускаватых, прымаецца яшчэ пакуль што пад увагу. "Але", гавораць татары: "як ужываньне жытняга хлеба зьяўляецца патураньнем асаблівым умовам пазьнейшага часу, таксама ня вельмі цяжкім грахом лічыцца і ужываньне каніны. Мы яе не ямо не дзеля грахоўнасьці такое ежы, а ўпрост дзеля яе нясмачнасьці". Сьвіньняў-жа, самоў, мятнузоў татары есьці ніколі не згаджаюцца.

Жывёлу рэжуць способам, падобным да яўрэйскага, толькі дзеля большае пэўнасьці пасьля першага грунтоўнага сьмяротнага разрэзу тры рухі. Пры гэтым гавораць паарабску: "У імя бога ўсемагутнага".

Купляюць, аднак-жа, і трэфнае мяса /апроч сьвініны/.

Паколькі Магамэт, забараніўшы віно, нічога не сказаў аб гарэлцы, ад гэтае апошняе адмаўляюцца далёка ня ўсе татары.

На вясельлях у іх рэдка калі пануе бязумоўная цьвярозасьць.

Пятнічны адпачынак у мусульман падобны да суботняга ў яўрэяў і нядзельнага — у некаторых протэстанцкіх старонках, заселеных англасаксамі.

Менскія татары зусім не згаджаюцца з гэтым рэлігійным наказам: яны і пішуць і лічаць грошы ў пятніцу.

Нашы татары вельмі даўно адмовіліся ад полігаміі дзеля таго, што толькі гэтаю цаною ім можна было атрымаць дазвол на мяшаныя шлюбы. Праўда тое, што ўрад Рэчы Паспалітае потым /у часе клерыкальнае рэакцыі/ усё-ткі забараніў татарам жаніцца з хрысьціянкамі, але нашы мусульмане тады зусім ня мелі ахвоты варочацца да гарэмнага быту, бо ўжо былі прывыкшы да моногаміі.

Даўнэйшае імкненьне татар да мяшаных шлюбаў лёгка было-б растлумачыць, калі-б мы прынялі гіпотэзу аб пахаджэньні нашых мусульман ад крымскіх ваеннапалонных, бо ваякі звычайна не бяруць сваіх жонак з сабою ў паход.

Няпрыхільнасьць да полігаміі выяўляецца часам даволі яскрава. Калі адзін немясцовы мусульманін пасяліўся з дзвюма жонкамі сярод менскіх татар, усе суседзі выкпівалі яго, як нейкага вар'ята.

Штодзенныя /пяць разоў у дні/ малітвы з абмываньнямі цяпер ужо далёка ня ўсе могуць і хочуць выконваць.

Маладзіковыя сьвяты /падобныя да яўрэйскіх/, пост Рамазан, найвялікшае сьвята Байрам захоўваюцца, але не заўважаецца значнага іх уплыву на ўвесь ход жыцьця, як гэта мы бачым на Ўсходзе.

Духаўнікі /муллы/ залежалі адміністрацыйна ад Сымфэропальскае духоўнае управы, яшчэ раней — ад Бэндэрскага муфтыя.

Гэта — апошнія ўспаміны аб паўднёвым пахаджэньні нашых татар.

Духавенства большаю часткаю бывала бяз вышэйшае духоўнае

асьветы, але, каб атрымаць годнасьць муллы, трэба было усё-ткі паслаць у Сымферопаль пэўную тэолёгічную працу. Выбраны парафіянамі мулла зацьвярджаўся на пасадзе Сымферопальскаю духоўнаю управаю.

Вопратка духаўнікоў падобна да усім вядомае расы праваслаўнага духавенства.

Унутранасьць мячэці нагадвае сынагогу /"школу"/. Простыя лавы, катадра; замест абразоў, якія мы бачым у праваслаўных і каталікоў, выслоўі з корану. Гэтыя выслоўі мы знаходзім і ў пакоях у татар. Той, хто бываў у крымскіх або казанскіх татар, з вялікім падзівам заўважыць, у нашых мусульман, побач з гэтым выслоўямі, фотографічныя здымкі, малюнкі ды нават статуэткі розных пастушкоў і рыбакоў.

Татарскае насельніцтва гораду Менску чыста суніцкае; шыітаў /якіх шмат, напрыклад, у Азэрбайджане/ у нас зусім няма.

Пабачым, як складаюцца для татар матар'яльныя умовы жыцьця.

Шпілеўскі ў 1854 годзе лічыць у Менску 400 душ татар.

Паводле паказаньняў перапісу 1897 году, усяго татар у Менску было 1.146 чалавек; з гэтага ліку самастойныя сродкі утрыманьня мелі 373 мужчыны і 66 кабет, а ў якасьці членаў сям'і запісаны 251 мужчына і 456 кабет.

Паводле перапісу 1923 году, усяго татар было 1.045 чалавек /значыцца, лік іх зьменшыўся на сто адну асобу/. Мужчын было 474, а кабет 571. Лік кабет нават павялічыўся, але вельмі значна зьменшылася колькасць мужчын. Абставіны ваеннага часу бязумоўна зыгралі тут пэўную ролю.

У Шпілеўскага і ў выніках перапісу 1923 году мы не знайшлі падзелу татарскага насельніцтва па профэсіях.

Вынікі таго перапісу, які вядзецца цяпер, у канцы 1926 году, будуць нам вядомы толькі у наступным 1927 годзе.

Таму мы можам тут прывесьці толькі даныя перапісу 1897 году, даволі падрабязныя і вельмі цікавыя.

Тады менскія татары, паводле сваіх занятнкаў, падзяляліся наступным спосабам.

Табліца статыстычных даных аб менскіх татарах паводле вынікаў перапісу 1897 году

| № | Профэсіі, заняткі і г.п. жыхароў і наагул іх сродкі утрыманьня | Мужчын | Кабет | Склад іх сям'і: Мужчын | Склад іх сям'і: Кабет |
|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Адміністрацыя, суд і паліцыя | 28 | – | 8 | 25 |
| 2. | Грамадзкая і станавая служба | 1 | – | – | 2 |
| 3. | Прыватная юрыдычная праца | 1 | – | 2 | – |
| 4. | Збройныя сілы | 122 | – | – | – |
| 5. | Навучальна-выхаваўчая праца | 3 | – | 4 | 9 |
| 6. | Лекарская ды санітарная праца | – | 1 | – | – |
| 7. | Служба ў дабрачынных установах | 1 | 1 | 3 | 3 |
| 8. | Прыватная служба, падзённая праца і г.п. | 72 | 22 | 54 | 129 |
| 9. | Даходы з капіталаў і нярухомасьці, грошы ад бацькоў ды сваякоў | 18 | 15 | 21 | 48 |
| 10. | Сродкі ад дзяржаўнага скарбу, грамадзкіх установ і прыватных асоб | 7 | 3 | 2 | 5 |
| 11. | Земляробства /ральніцтва/ | 59 | 10 | 104 | 160 |
| 12. | Жывёлагадоўля | 2 | – | – | – |
| 13. | Праца ў руднях і капальнях | 3 | – | – | – |
| 14. | Апрацоўка валакністых матар'ялаў | – | 4 | – | 1 |
| 15. | Апрацоўка жывёлавых продуктаў | 2 | – | 1 | 3 |
| 16. | Апрацоўка дрэва | 1 | 1 | 2 | 6 |
| 17. | Апрацоўка мінэральных матар'ялаў /кераміка/ | 2 | – | – | 8 |
| 18. | Апрацоўка расьлінных і жывёлавых харчовых продуктаў | 1 | – | 1 | 4 |
| 19. | Выраб адзеньня | – | 2 | – | – |
| 20. | Будаўніцтва і рэмонт памяшканьняў | 3 | – | 8 | 7 |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 21. Праца на чыгунцы | I6 | – | 9 | I6 |
| 22. Возьніцкі /фурманскі/ промысел | 5 | – | I | 6 |
| 23. Праца на пошце, тэлеграфе і тэлефоне | 5 | – | I2 | I0 |
| 24. Гандаль наагул без дакладнейшага азначэньня | 3 | – | – | – |
| 25. Гандаль сельска-гаспадарчымі продуктамі /апроч збожжа/ | – | I | – | 2 |
| 26. Гандаль прадметамі хатняга ужытку | 5 | – | 6 | – |
| 27. Гандаль у разнос і развоз | 5 | – | 2 | I |
| 28. Асобы, у якіх заняткі ня вызначаны | 5 | I | 7 | 6 |
| 29. Асобы, якія не далі вестак аб сваіх занятках | 2 | 5 | 3 | 5 |

---

Апроч вайскоўцаў, якія ў большай сваёй частцы займаюцца ваеннаю профэсіяй толькі тымчасова, а складаюць найбольшую катэгорыю — I22 чал., мы павінны зьвярнуць увагу на 72 мужчыны і 22 кабеты, што знаходзяцца на службе ў прыватных асоб. Далей ёсьць вялікая група, якая займаецца ральніцтвам — 59 мужчын і I0 кабет. Ня мала таксама служылі ў розных урадовых установах. Мы прывыклі думаць, што сярод татар ёсьць шмат гарбароў і фурманоў /аб гэтым гаворыцца нават і ў некаторых старых крыніцах/. У I897 годзе апрацоўкаю продуктаў жывёлавага паходжаньня займаліся толькі 2 мужчыны, пры якіх жылі 3 кабеты і I мужчына, а возьніцтвам /фурманствам/ займаліся 5 мужчын /пры іх запісаны і I мужчына і 6 кабет/.

Такім парадкам, відавочна, што даўнейшы падзел татарскага насельніцтва паводле заняткаў значна ўжо зьмяніўся ў XIX сталецьці. Цікава, што з тых людзей, якія маюць занятак каля мячэці, ніхто не запісаны. Гэта тлумачыцца тэю акалічнасьцю, што ў нашых татар даходы ад гэтых заняткаў былі вельмі малыя — таму прыходзілася мець яшчэ і іншыя крыніцы для існаваньня; пад гэтымі рубрыкамі, мабыць, і запісваліся людзі, якія абслу-

гоувалі мячэць. Цікава яшчэ і тая абставіна, што карчмарства ды проституцыя зусім не адзначаны сярод татарскага насельніцтва нашага гораду. У вастрозе у 1897 годзе нікога з татар ня было.

Непрацоўныя даходы мелі 18 мужчын ды 15 кабет /пры 21 мужчыне і 48 кабетах у сем'ях/. Татарскае насельніцтва гораду Менску, як мы бачылі, складалася у канцы XIX сталецьця пераважна з людзей вытворчае працы і, часткова, з асоб, што займаюцца інтэлігентнымі профэсіямі, непрацоўнага элемэнту было мала.

У гэтым сэнсе і цяпер мы маем тое-ж самае становішча.

У культурных адносінах мы заўважаем наступную зьяву. Штогод павялічваецца процант асоб пісьменных паэўрапейску /г. зн. пабеларуску ды парасійску; некаторыя, асабліва пры польскай окупацыі, добра вывучыліся і папольску/.

Затое значна зьменшыўся процант пісьменных паарабску. Запраўды, чым трэба тлумачыць тую акалічнасьць, што існавалі беларускія Ай-Кітабы ды нават кораны, пісаныя арабскімі літарамі? Чаму іх ня пісалі ані лацінкаю, ані кірыліцаю? Таму, што у лацінцы бачылі нахіл у каталіцкі бок, а у кірыліцы — у праваслаўны. Татары згубілі ўжо сваю татарскую мову. Але, пасылаючы дзяцей у хрысьціянскія школы, можна было атрымаць ужо зусім непажаданую нечаканасьць — дзеці прымалі хрысьціянства. Пасьля некалькіх падобных прыкладаў татары больш ужо не пасылалі дзяцей у школы каталіцкія, праваслаўныя і г.п.; гэтак было даволі доўга.

Толькі ўжо у XIX сталецьці — у самым яго канцы — большая колькасьць татар вучыцца у сьвецкіх школах. Прыватныя арабскія школы "ходжаў" яшчэ трымаюцца і у гэтай эпосе. Але з плыньню часу "ходжы" маюць ужо усё менш ды менш вучняў і вучаніц.

Увесь чыста быт татар /не гаворачы ужо аб іх мове, пра-

вільнай, беларускай/, падпадае пад значны ўплыў суседзяў. Сяброўскія адносіны паміж мужчынамі і жабетамі, адсутнасьць рэлігійнага фанатызму, вольныя думкі адносна наказаў мусульманскае веры і г.д. — былі ўжо намі адзначаны.

З чыста татарскага мастацтва засталося ня шмат рэчаў. Гаворачь аб нейкіх шафах з разьбою, з усходнімі украсамі, ды можна бачыць вялікія люлькі, даволі прыгожа зробленыя.

Песьні, прыказкі і г.п. — тыя-ж самыя, што і ў беларусаў.

Вельмі цікавым зьяўляецца пытаньне, ці ня было адваротнага ўплыву на беларусаў з боку татар.

Акад. Я.Ф.Карскі некаторыя вельмі звычайныя беларускія словы выводзіць з татарскае мовы. Напрыклад: андарак, небажа, баламут, барыш, бугай, бусел, вогер, гарбуз, гойдацца. дуда, дурань, ёлуп, кабан, кайданы, каліта, канчук, капкан, каптан, капшук, каўпак, качан, курган, люлька, пасталы, рахманы /слова сэміцкае, якое перайшло ў татарскую мову з арабскае, хаця яно ёсьць і ў яўрэяў/, тавар, торба, тутун, харч, чарга, шапка ды інш.

Беларускія татары гэтак хутка згубілі сваю мову ў выніку бязупынных зносін з беларусамі. Аднак, можна думаць, што гэтыя бязупынныя зносіны паміж двума народамі павінны былі пакінуць нейкі сьлед ня толькі ў татарах, але і ў беларусах.

Трэба прыняць пад увагу і тую абставіну, што Рэч Паспалітая амаль што ўвесь час свайго існаваньня праводзіла ў барацьбе з татарамі; бывалі ў яе і саюзьнікі сярод татар. Такім парадкам наўрад ці можна ўжо татарскія словы ў нашай мове тлумачыць уплывам нашых татар. Тым больш перашкод ёсьць для таго, каб выявіць уплыў нашых менскіх татар на менскую беларускую гутарку. Калі і можна будзе знайсьці тут нешта пэўнае, дык праўдападобна, што ў колькасных адносінах гэта будзе вельмі

нязначным.

Невялікая група менскага насельніцтва /меншая, чымся 1%/— татары — зьяўляюцца, аднак-жа, у пэўнай меры цікавым прадметам вывучэньня з этнографічнага пагляду.

Антрополёгічна — гэта мяшаная раса: славяна-манголы; з боку мовы — нагэтулькі славянізаванае племя, што, чытаючы па-арабску, татары вымаўляюць словы з беларускім акцэнтам /таксама, як яўрэі-ашкіназы, чытаючы гэбрэйскія словы, надаюць ім германскае вымаўленьне/.

З боку быту мы ўжо паказалі моцны эўропейскі ўплыў на нашых татар.

Трэба вывучыць дакладна асаблівасьці гэтае нацыянальнае групы. Тады можна будзе адказаць на пытаньне аб яе магчымай будучыні.

Ці будзе яна нейкаю нацыянальнаю меншасьцю з паасобнымі сваімі запатрабаваньнямі і вымаганьнямі, як народ з выразнымі характэрнымі рысамі?

Ці мо' гэта будзе толькі адменаю адзінага беларускага пляменьня; тады, поруч з беларусамі праваслаўнымі ды каталікамі, зьявілася-б трэцяя група — беларусы-мусульмане?

У кожным разе гэтае пытаньне цяпер разьвязаць канчаткова яшчэ зарана.

Патрэбны папярэднія досьледы. Узбудзіць цікавасьць да падобных дасьледзін — якраз і зьяўляецца мэтаю гэтага артыкулу.

## ЦІ ЗАХАВАЛІ ТАТАРЫ СВАЕ СВЯТЫЯ КНІГІ І СВАЮ ВЕРУ?

Археаграфічная экспедыцыя Мінскага гарадскога грамадска-культурнага аб'яднання "Аль-Кітаб" пабывала ў месцах кампактнага пасялення татараў у Мінскай, Брэсцкай і Гродзенскай абласцях. Мэта экспедыцыі — пошук рукапісных мусульманскіх кніг.

Першым пунктам на нашым маршруце, дзе жывуць татары, быў гарадскі пасёлак Узда, які ў гістарычных крыніцах упамінаецца пад 1494 г. Уздзеншчына славіцца сваімі сынамі, якія вядомы на ўсю Беларусь. Тут нарадзіліся пісьменнікі Сымон Баранавых, Антон Бялевіч, Ілья Гурскі, Кандрат Атраховіч /Крапіва/, Алесь Пальчэўскі, Паўлюк Трус, Алесь Якімовіч, Пятро Глебка /татары лічаць, што яго недалёкія продкі паходзяць з татараў/; вучоныя Уладзімір Завітневіч, Якаў Наркевіч-Іодка, Васіль Пальчэўскі і Канстанцін Шабуня. Высокая культура і далікатнасць уласцівы жыхарам Уздзеншчыны і сёння. Аддзел культуры паведаміў татарам аб нашым прыездзе. Адбылася размова з супляменнікамі. Мы пабывалі на мізары, які добра ўгледжаны. Тут хаваюць мясцовых мусульман, а таксама памерлых мінскіх татараў.

Толькі адна жанчына мае Кур'ан і Хамаіл і ўмее іх чытаць. Гэта маці Айшы Александровіч — члена Саюза мастакоў Беларусі. З прычыны таго, што да 1939 г. Уздзеншчына была прыгранічным раёнам, любыя праяўленні мусульманскай рэлігіі, свяшчэнныя кнігі прызнаваліся антысавецкімі, знішчаліся, а ўладальнікаў іх высылалі. Сярод татар, ды і не толькі сярод іх, жыве легенда, што назва мястэчка Узда звязана з татарскім

словам узда — аброць. Нейкі хан згубіў тут калісьці дарагую аброць, якую конюхі-нукеры доўга шукалі.

Наступным пунктам быў гарадскі пасёлак Капыль, які старэйшы за Узду і ўпамінаецца ў гістарычных крыніцах пад 1128 г. Капыльшчына таксама шырока вядома сваімі пісьменнікамі і вучонымі. Тут радзіма пісьменнікаў Анатоля Астрэйкі, Івана Бабарэкі, Змітрука Жылуновіча,/Цішкі Гартнага/, Алеся Гурло, Аляксея Коршака, Мендэле Мойхер-Сфорыма, Адама Русака, Васіля Сташэўскага, Мікалая Рамануўскага /Кузьмы Чорнага/, філосафа Івана Лушчыцкага, літаратара Сцяпана Александровіча, якога ведаюць і якім ганарацца ўсе яго супляменнікі — беларускія татары.

На жаль, сустрэчы з татарамі не было. Нам удалося знайсці родную сястру Сцяпана Александровіча — Аніфу. У яе захаваліся святыя мусульманскія кнігі. Тут таксама толькі адна вельмі старэнькая жанчына ўмее чытаць Кур"ан. На мізары мы зразумелі, чаму раённае начальства не захацела размаўляць з намі. Мізар не абгароджаны, па магілах пратаптаныя дарожкі.

З прыгнечаным настроем мы накіраваліся ў горад Клецк — адзін з найстарэйшых на Беларусі, упамінаецца пад 1128 г. Татары тут былі паселены ў 1508 г. Памерлых хаваюць на мізары каля в. Асмолава Нясвіжскага раёна. Мізар у сасновым /хваёвым/ лесе, магілы добра дагледжаныя. Мясцовыя ўлады ў Клецку добрыя да татар і спагадлівыя. Была арганізавана сустрэча ў музычнай школе. Тут, у былой Заходняй Беларусі, да 1939 г. у школе татарскія дзеці вучыліся чытаць і пісаць па-арабску, яшчэ і сёння захаваліся падручнікі. Многія татары ведаюць мусульманскія малітвы, хораша пяюць. Нам паштас-

ціла ўбачыць тут у адной жанчыны рукапісны Кур"ан з перакладам на беларускую мову. Такі Кур'ан з перакладам называюць Тэфсір. У даўнейшыя часы хоць бы адзін Тэфсір быў у кожнай татарскай вёсцы, у кожным горадзе ці мястэчку, дзе жылі татары. Каштаваў ён дорага, некалькі кароў трэба было прадаць, каб купіць такую кнігу. Найчасцей яе куплялі ўскладчыну. Яшчэ адна прыемная знаходка для нас — гэта чалавек, які ўмее прыгожа пісаць Далавар — сувой малітваў, якія кладуць у дол нябожчыку. Мала ўжо засталося такіх пісцоў на Беларусі. Гэты самы чалавек — Якуб Ждановіч ведае песню Зікр — малітву-заклік чыніць Намаз. Яна на старакрымскататарскай мове 15-га стагоддзя. Мы запісалі на магнітастужку і гэтую песню-малітву, і іншыя малітвы ў выкананні клецкіх татар. Былі выказаны пажаданні, каб у школе, як і да 1939 г. у Польшчы, татарскіх дзяцей навучалі Ісламу.

У горадзе Ляхавічы, які вядомы з 15 ст., былі дзве вуліцы /вуліца і завулак/, дзе жылі татары, відаць, з 15 ст. Цяпер пасля розных перайменаванняў адна вуліца названа ў гонар Ф. Еўлашоўскага — беларускага грамадскага дзеяча і пісьменніка, другая — у гонар кампазітара Я. Цікоцкага. У Ляхавічах жыве ці не самы стары татарын на Беларусі — Мустафа Багдановіч /яму 96 гадоў/,— удзельнік Першай сусветнай і грамадзянскай войнаў. Мізар тут у добрым стане. Многія татары ўмеюць чытаць святыя мусульманскія кнігі. Мы запісалі на магнітастужцы мелодыку пяяння сураў з Кур"ана — 'Аль-Фацихі і Я-Сін.'.

У славутым беларускім горадзе Слонім, які ўпамінаецца пад 1252 г., а ў 1795—1797 гг. нават быў губернскім горадам, жыло многа татараў. У Польшчы гэта быў трэці пасля

Вільні і Навагрудка горад па колькасці жыхароў-татараў. Цяпер жа мы з вялікай цяжкасцю знайшлі жанчыну-татарку, якая паказала нам мізар.

Знаходзіцца ён пасярод векавога лесу. Тут мы ўбачылі і сфатаграфавалі помнік воінам-мусульманам, які пастаўлены ў час Першай сусветнай вайны памерлым у шпіталі мусульманам. За польскім часам, як тут кажуць, пастаўлены помнікі на асобных магілах. Надпісы зроблены на арабскай і польскай мовах. Найчасцей трапляюцца надпісы пра мусульман Уфімскай і Казанскай губерні. Ці ведаюць унукі і праўнукі пра сваіх родных, якія ляжаць у беларускай зямельцы?

На нашым шляху была вёска Арда. Наведалі мы мізар, які зарос белымі бярозамі. Відаць свежыя пахаванні, многія магілы дагледжаны.

З хваляваннем чакалі мы сустрэчу з былым сталічным горадам Навагрудкам. Упамінаецца горад у гістарычных крыніцах пад 1252 г. Тут многа помнікаў гісторыі і архітэктуры. Тут жыў /паводле некаторых звестак і нарадзіўся/ вялікі паэт Адам Міцкевіч. Сям'я Міцкевічаў вельмі добра адносілася да татараў, а родны брат Адама — Аляксандр, прафесар спачатку Кіеўскага, а пасля Харкаўскага універсітэта, пакінуў пра татар нават кампліментарныя /пахлебныя/ словы.

Навагрудскія татары лічыліся багатымі. Некаторыя мелі валоку, а то і 2—3 валокі зямлі. На татарскай зямлі, цяпер ужо ў межах горада, знаходзіцца татарскі мізар. Векавыя дрэвы, найчасцей дубы, яшчэ "памятаюць" Адама Міцкевіча.

Сустрэліся мы з навагрудскімі татарамі на кватэры аднаго мусульманіна. Цяжка было слухаць пра тое, як жаліліся

людзі, многія старэнькія, што і перад смерцю не могуць памаліцца ў джаміі /мячэці/. Вельмі ўсхвалявала нас сустрэча з Амініяй Асановіч, якая нягледзячы на немалыя гады /ёй каля 90 гадоў/, непапраўна вялікія страты /у час вайны загінулі тры сыны/ заклікае маладых татар адбудаваць мячэць у Навагрудку.

Непадалёк ад Навагрудка, за 7—10 км, каля в. Лоўчыцы, знаходзіцца мізар, які вядомы ўсім татарам на Беларусі. На камені напісана, што мізар заснаваны ў пачатку 16 ст. Тут магіла святога Эўліі Канстуся. Кожны год у вялікае свята тут збіраюцца мусульмане вакол магілы і чыняць малітву, пасля раздаюць садагу за памерлых. Мізар абгароджаны, дагледжаны. На мізары руіны мячэці. Гэта не вынік абыякавасці татараў, а віна ўлады, якія не дазвалялі рамантаваць мячэць. Цяпер як быццам ужо ёсць планы рэстаўрацыі мячэці, але мала надзеі, што яны будуць здзейснены.

Апошні пункт нашай экспедыцыі — гарадскі пасёлак Іўе, вядомы з 15 ст. як маёнтак П. Мандзігера, а з 2-й палавіны 16 ст. мястэчка. Да пачатку 17 ст. ў Іўі існавала арыянская школа, у 1585—1593 гг. рэктарам яе быў мысліцель-гуманіст і педагог Ян Ліцыній Намыслоўскі. У Іўі адзіная дзейная на Беларусі мячэць, пабудаваная ў 1884 г., аб"яўлена помнікам архітэктуры рэспубліканскага значэння. Тут дзейнічае школа для дзетак-мусульман. Іслам вывучалі тут падпольна ў самыя цяжкія гады сталіншчыны і хрушчоўшчыны. На свята Курбан-Байрам сюды з"ехаліся татары амаль з усёй Беларусі. Было вырашана стварыць Згуртаванне татараў-мусульман на Беларусі /"Аль-Кітаб"/. Прэзідэнтам абраны Абубякір Шабановіч.

Было прапанавана вывучыць вопыт іўеўскіх татараў у справе навучання дзяцей Ісламу. Даволі шматлікія ў іўеўскіх татараў святыя кнігі Кур'ан, Тэфсіры, мулінскія Хамаілы і Кітабы трэба размножыць ці хоць бы зрабіць фільмакіопіі, ксеракопіі. Можа, нашы найбольшыя рэспубліканскія бібліятэкі будапамогуць нам у гэтай справе. Тады ў кожнага навукоўца будзе мажлівасць пазнаёміцца з гэтымі цікавымі кнігамі, асабліва Тэфсірамі і Кітабамі, дзе зберагласся беларуская мова I5—I6 ст.

Татары выказваюць шчырую падзяку Мінскаму гарадскому аддзяленню Савецкага фонду культуры за арганізацыю экспедыцыі і фінансавую дапамогу. Вынікі апрацоўкі сабраных матэрыялаў будуць выкарыстаны для вывучэння жыцця татараў, для арганізацыі новых экспедыцый.

## АХРАТАННЕ — ПАБРАЦІМСТВА

У беларускіх татараў яшчэ да Другой сусветнай вайны вядомы быў абрад пабрацімства — ахратанне /ад турэцкага слова "ахірэт" замагільнае жыццё/. Узнік гэты абрад вельмі даўно, з цягам часу пад уплывам Ісламу ён змяніўся. Спачатку пабрацімства паміж прыязнымі мужчынамі заключалася выказваннем пэўнай фразы / прысягі / і ліцця вады на шаблі. Можа ад гэтага часу і ідзе руская прыказка "дружба — не разлей вода"?

У суплікы /звароце/ татараў да караля Сігізмунда ёсць упамінанне пра прысягу, якую на шаблях давалі іх бацькі, што будуць вернымі беларусам, з якімі "... пясок, вада і дрэвы з"яўляюцца нам агульнымі".

Абрад ахратання адбываецца ў прысутнасці мулы. Асобы, якія ўдзельнічаюць у парадненні, бяруцца за канцы ручніка і абыходзяць тры разы вакол стала, на якім стаіць вада, хлеб, соль і ляжыць Кур'ан або Хамаіл. У гэты час мула спявае дуа /малітву/ з Хамаіла, благаслаўляе пабрацімаў ад імя Алаха. Малітва цягнецца доўга, гадзіну а то і больш, і заканчвае яе мула віншаваннем пабрацімаў. У канцы ахрэці дораць адзін аднаму падарункі /найчасцей ручнік/, які захоўваецца да скону. Трэба зазначыць, што толькі заключанае па абраду пабрацімства мае сапраўднае значэнне. Бывае, што прыязныя паміж сабою асобы называюць сябе ахрэцямі /жанчыны — ахрэцькамі/, але ніхто не лічыць гэта за фармальнае пабрацімства.

Заключаць ахратанне могуць між сабою двое мужчын або мужчына з жанчынаю, калі ён жанаты, а яна замужам. Пабрацімству надаецца вялікае значэнне. Татары кажуць: "Ахрэць лепш чым брат, ахрэцька лепш чым сястра". Ахрэці лічыліся такімі блізкімі, што іх дзеці не маглі браць шлюб між сабою. Ахрэць павінен быў аказваць ахрэцю ці ахрэцьцы павагу, спяшацца ў выпадку няшчасця на дапамогу /ні ў якім разе нельга было адмовіць у дапамозе/, апекавацца над сіротамі як над сваімі роднымі дзецьмі. Калі ахрэць выказваў жаданне ўзяць у пабраціма з хаты якую-небудзь рэч, навет каня, то трэба было аддаць усё без пратэсту, хоць гэта рэч была самай дарагой.

Ахрэцям нельга было сварыцца між сабою. Татары кажуць: "З бацькам, братам, сястрой пасварыцца можна, а з ахрэцем нельга". Калі ахрэці адгаворваюць, а бараніць яго няма магчымасці, то трэба выйсці з хаты. Наогул нельга сказаць дрэннае

слова пра ахрэця. На тым свеце ахрэці сустрэнуцца. Можна выкупіць грэх за свайго ахрэця /даць грошы на дабрачынную справу, карміць нямоглых, маліцца/. Лепш за ўсё мець сем ахрэцяў сярод мужчын і жанчын.

Парушэнне пабрапімства лічыцца вялікім грахом. Але калі ўжо такое здарылася і ахрэці пасварыліся, то бяруць зноў ручнік за канцы і мула сімвалічна рассякае яго далонню ў знак перарвання пабрапімства.

Паважаны чытач! У наш век, калі лёс раскідаў родных па далёкіх вёсках, мястэчках і гарадах колькі ты можаш налічыць сяброў, якія кінуцца табе на дапамогу ў цяжкую хвіліну? А да каго ты прыйдзеш у ліхі час? Можа і ёсць сэнс у пабрапімстве — ахратанні і цяпер?

БЫЎ СРОДАК УПЛЫВАЦЬ НА НАДВОР'Е

З сельскай гаспадаркай, асабліва агародніцтвам, у татараў быў звязаны абрад прынясення ахвяры. Калі доўга не было дажджу, калі была пагроза, што ўсё высахне на ніве і градах, то татары куплялі ўскладчыну гадавалага чорнага барана. У некаторых мясцінах да складчыны далучаліся і беларускія сяляне. Калі ў хрысціян пыталі, чаму яны прымалі ўдзел у гэтым татарскім абрадзе, яны адказвалі: "Бог адзіны".

Ва ўстаноўлены дзень надвячоркам натоўп татараў накіроўваўся да ракі ці ручая. Барана вялі за рогі. Мусульмане станавіліся радамі і пад кіраўніцтвам мулы альбо муэдзіна чынілі малітву "Тэкбір". Мула апранаўся ў джубэ /від сутаны/ з вывернутай падкладкай. Сяляне-хрысціяне, калі яны прысутнічалі пры гэтым абрадзе, станавіліся ў баку і маліліся

па-хрысціянску. Затым адзін з татараў рэзаў барана. Ахвярны баран павінен быў быць павернуты галавой на поўдзень. Пасля малітвы бараніну варылі ў катлах. Мяса звычайна елі на месцы. У некаторых мясцовасцях, напрыклад, у Міры, бралі мяса дахаты. У Клецку аўчыну пасля прынясення ахвяры кідалі ваду. У Міры на аўчыну, пакрытую сурвэтай, клалі спецыяльнай выпечкі булкі, якія раздавалі на месцы бедным як садагу. Косці барана кідалі ў ваду або закопвалі ў ямку. У час гатавання або пасля таго, як з'ядалі барана, удзельнікі абраду аблівалі адзін аднаго вадой, а хлопцы з жартамі кідалі дзяўчат і мулу ў раку.

Прынясенне ў ахвяру белага барана рабілася з мэтаю выклікаць сонечнае надвор'е. Абрад гэты адбываўся так як і пры ахвярапрынашэнні ў засуху. Толькі барана рэзалі ўжо на ўзгорку, спальвалі разам з аўчынай, мясам і касцьмі.

Чаму ахвяра чорнага і белага барана давалі добры вынік? Калі было непажаданае для людзей надвор'е, то праваслаўныя і католікі маліліся ў цэрквах і касцёлах. Татары ж вельмі цярпліва чакалі, але калі ўжо цярпеннеканчалася, то рэзалі барана. Вядома, што бясконца не бывае засуха ці даждлівае надвор'е. Само сабой усё мае канец. Здаралася так, што пасля татарскіх абрадаў і наступалі пажаданыя змены.

---

КРЫМСКАТАТАРСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ ОЗЕН БОЙЛАРЫНЫНЪ

/ Берагі ракі. Ноты гл. на стар. 74 /

| | |
|---|---|
| Озен бойларынынъ индже думаны. *2 кере*<br>Дагълара йайылыр, сехар земаны. *2 кере* | Темная дымка тумана речного *2 раза*<br>На заре уползает в горы. *2 раза* |
| Озен бойларынынъ авасы серин. *2 кере*<br>Гузель къушлар шенълик сачар баарь куньлери. *2 кере* | Возле реки воздух свежий, прохладный. *2 раза*<br>Радость приносит щебет птиц в весенние дни. *2 раза* |
| Озен бойларында бульбуллер отер. *2 кере*<br>Орманлара, багълара селасы кетер. *2 кере* | На берегах реки поют соловьи. *2 раза*<br>Их звонкие трели разносит эхо по садам и горам. *2 раза* |

## ЗВЕСТКІ ПРА НАШЫХ ТАТАРАЎ

І. Ў Навуковай бібліятэцы ў Вільні, у аддзеле рукапісаў захоўваецца цікавы матэрыял /фонд 34/ пра Бягомльскі прыход Барысаўскага павета /цяпер у Докшыцкім раёне Віцебскай вобласці/.

Бягомльскі прыход /па-мясцоваму Бягомля, Бягомленскі/ /паміж: р. Бярэзіна — усход, р. Поня — захад, Бегамлянка — поўнач, Вардомка — поўдзень/ — "первоначально местожительство занимали здесь захожие — беглые, то и многолюднейшее селение названо местом жительства беглых — Бегомльем /предание/. Справедливость этого предания подтверждается отсутствием общительности между крестьянами. Каждый живёт особняком, без взаимных помочей, обычных в соседних приходах... Кроме крутым различием нравов и обычаев, даже покроем одежды. Так как сюда стекался отовсюду, то, очевидно, Бегомльский приход составляет смесь народа белорусского, черноруcского, литовского, жмудского и татарского... Деревни различаются: І. Юхновка, Мильш /Мільчанскія Чысці?/, Будиловка /там народ дородный, лица белые, тёмнорусые/; 2. Веражевка, Городёнка, Кальники, Бабцы, Забродок, Укромье /народ тощий, слабый, низкий, светлорусые/; 3. Волчи /цвет лица медный, слабые, волосы чёрные, круглолицые, недоверчивые и все Батуры /фамилия/; 4. Бояры, Студенка, Будачев /темнолицые, круглые, черноволосые, проворные/" /ф. 34, с. 185, л. І б/.

x x

x

П. У гаворках Прапойскага раёна /цяпер Слаўгарадскі раён Магілёўскай вобласці/ ужываецца татарскае слова "улус" у сэнсе здабыча. Гэтае значэнне можна праілюстраваць наступнымі

прыкладамі: "Як ноч, так Кот і пашоў на Ўлусы — станя на пірнкалі і ловя рыбу, як йіна піраходзя далі ў Пішчанку", "Пашоў на Ўлусы, — ходзя ў салому ноччы", "Пашла Пякленя на Ўлусы, Хвядос едзя ў Сібір, то можа што аддасць, ні пувязець з сабой" /в. Шаламы Слаўгарадскага раёна/.

x x
x

Ш. Жартам называлі перасяленцы, жыхары Гомельшчыны /з Буда-Кашалёва/ мясцовых жыхароў Магілёўшчыны /былога Быхаўскага павета/ татарамі за тое, што ў апошніх у гаворцы была моўная асаблівасць, наяўнасць формаў прыслоўяў тыпу тутацька, тамацька, тутацькі, тамацькі замест тут, там. Будакашалёўцы дадавалі яшчэ, што ў быхаўцаў /былая Прапойская воласць/ захоўваліся ў 1891 годзе /час куплі зямлі, паводле падання/ курныя хаты. Яны лічылі мясцовых жыхароў больш адсталымі, чым тыя, што з Буда-Кашалёўшчыны.

x x
x

ІУ. Паводле падання, заснавальнікамі вёскі Лапацічы Слаўгарадскага раёна былі перасяленцы татарскай нацыянальнасці. У 1671 г. ў суседняй Магілёўскай эканоміі былі заселены 70 татарскімі сем"ямі пустуючыя вёскі Батонь, Забалоцце і Гуслішча /сучаснага Вендаражскага сельсавета Магілёўскага раёна/, а таксама 24 татарскія сям"і былі паселены ў в. Мілоўля Ульянаўскага войтаўства той жа эканоміі, якія пераехалі з Дарагабужа /Смаленская вобласць/ /В.И. Мелешко. Очерки аграрной истории Восточной Белоруссии, Мн., 1975, с. 23/.

# МІШАРЫ — ХТО ЯНЫ?

Калі пры знаёмстве і называю сваю нацыянальнасць — "мішар", то звычайна сустракаю здзіўлены позірк. Тады дадаю, што мішары складаюць частку сучаснага татарскага народа. Мішары гавораць на заходнім дыялекце паволжскататарскай мовы. Гэты дыялект складаецца з 8 гаворак — цемнікаўскай /у Мардовіі і на поўначы Пензенскай вобласці/, сергацкай /у Горкаўскай вобласці/, мардова-каратайскай /у Татарстане/, кузнецкай /на паўднёвым усходзе Пензенскай вобласці/, дражжанаўскай /у Чувашыі і Татарстане/, мелекеска-хвалынскай /ва Ульянаўскай вобласці/, чыстапольскай /у Татарстане і Куйбышаўскай вобласці/ і байкібашаўскай ці прыбірскай /у Башкірыі/. Частка мішараў жыве таксама сярод казанскіх татар за межамі СССР. За мяжой мішары кампактна жывуць толькі ў Фінляндыі. Туды яны перасяліліся спакваля з канца мінулага стагоддзя да 1924 года з некалькіх вёсак Чырвонакастрычніцкага раёна Горкаўскай вобласці.

Этнонім "мішар" паходзіць з цюркскай мовы і абазначае лясных людзей: "мішэ — лес + "эр" — мужчыны, людзі. Частка продкаў мішар была вядома пад назвай бесермен /бес—эр—мен, што абазначае "я бесер"/. Этнонім "буртас" мае той жа сэнс, што і "мішар": "бурта" — лес + "ас" — старажытная саманазва цюркскіх плямён.

Па моўных асаблівасцях мішары складалі значную частку печанегаў і гунаў, а затым асноўную частку палаўцаў /кіпчакоў, куманаў/. Мішары паходзяць ад старажытных

усходне- і сярэднееўрапейскіх плямён, вядомых Герадоту /У ст. да н.э./ як агадзіры, агаціры і г.д. Гэтыя этнонімы таксама абазначаюць лясных людзей: "агад" /мішарскае — "акац", сучаснае — "агач"/ — дрэва, лес + "ір" — людзі, мужчыны.

Этнонімы мішар, буртас, агачэр, агацір з"яўляюцца варыянтамі назвы адных і тых жа плямён. Этнонім мішар /варыянты: мажар, мадзьяр, міжгар, маджар, мяшчэр, мяшчарак, бесер і інш./ у навуковы абарот пусцілі венгры /мадзьяры/, і ўсе старажытныя і сярэднявечныя звесткі пра мішар яны адносяць на свой конт. Усе ўсходнія гісторыкі X—XI стагоддзяў гавораць аб цюркамоўных мішарах, а еўрапейскія гісторыкі — аб фінаўгорамоўных мадзьярах. Гэта блытаніна тлумачыцца тым, што венгры калісьці жылі ў Перадураллі і ў Паволжы. Сваю старажытную радзіму венгры пасля прыняцця каталіцтва назвалі "Магна Гунгарыя" /Вялікая Венгрыя/. Асноўная маса венграў разам з часткай мішар у сярэдзіне IX стагоддзя выйшла адтуль і пасялілася на тэрыторыі сучаснай Венгрыі, якую тады называлі Панонія. Частка венграў-мадзьяр, якая засталася нават у пачатку XIУ стагоддзя на тэрыторыі сучаснага Татарстана, захоўвала сваю мову. Пазней яны былі асіміляваны татарамі. Частка мішар, якія пайшлі з венграмі ў Панонію /Венгрыю/ з цягам часу асіміляваны венграмі, але пакінулі аб сабе памяць у выглядзе саманазвы венграў-"мадзьяры" і шматлікіх мішарскіх слоў у складзе сучаснай венгерскай мовы.

Да гэтага часу існуе думка, што мішары спачатку былі фінаўгорамоўнымі, а затым пад уплывам татар абтатары-

лiся. Моўны лад мiшар поўнасцю асцрэчвае гэта; мiшарская мова, асаблiва яе граматычны лад, моцна адрознiваецца ад асаблiвасцей мовы казанскiх татар, якiя на думку некаторых вучоных, прынялi ўдзел у абтатарваннi мiшар. Тое, што ў этнагенезе сучасных мiшар самы актыўны ўдзел прыняла мардва, асаблiва мокша, сумнення не выклiкае. Сляды мiшар з даўнейшых часоў назiраюцца па сярэднiм цячэнню Акi, г. зн. у тых месцах, дзе жыла i мокша. Менавiта таму, што там здаўна жылi мяшчэры, г. зн. мiшары, гэты рэгiён называецца Мяшчэрай. Адсюль пазней мiшары па розных прычынах перасялiлiся ва ўсходнiя раёны Расii, на тэрыторыю сучаснай Башкiрыi, Арэнбургскай, Чалябiнскай i iншых абласцей, дзе iх афiцыйна называлi мяшчэракамi.

З старажытных часоў цюркамоўныя плямёны мiшар пад назвамi мяшчэра, буртасы жылi ўперамежку з мардвой-мокша. У макшанскай мове намнога больш мiшарскiх запазычанняў, чым у мове суседнiх эрзя, хоць павiнна было б быць наадварот, бо эрзя жывуць на ўсход ад мокшы, г. зн. блiжэй да татар. Гэта тлумачыцца тым, што эрзя ўступiлi ў цесны кантакт з цюркамоўнымi мiшарамi намнога пазней за макшан, па меры выцяснення эрзя з поўначы на поўдзень, у сучасныя мясцiны пражывання. У мiшарскай мове таксама шмат мардоўскiх запазычанняў.

Мiшараў, якiя жылi разам з мокшай у раёне Саратаўскай, Пензенскай абласцей, ведалi як буртасаў. Рэшткi iх галоўнага горада захавалiся на ўскраiне горада Гарадзiшча Пензенскай вобласцi. Буртасы спачатку, як i булгары, падпарадкоўвалiся хазарскаму кагану. Пасля аслаблення хазарскага каганата булгары, а разам з iмi i буртасы, мяшчэра,

мардва і вяцічы перасталі падпарадкоўвацца хазарам. Вяцічы пачынаюць плаціць даніну кіеўскім князям, а буртасы, мішчэра і мокша ў канцы X стагоддзя ўваходзяць у склад Волжскай Булгарыі. У IX стагоддзі ў Сярэдняе Паволжа перасяліласся з Уйгурыі яшчэ адно мішарскае племя — іскілы. Іскілы размясціліся паміж буртасамі і булгарамі на заходнім беразе Волгі на поўнач ад цяперашняга Ульянаўска. Іх галоўны горад называўся Ашэль. У 1220 годзе ён быў захоплены і спалены рускімі. У час мангольскага заваявання ў XIII стагоддзі буртаскія гарады і гарадзішчы былі разбураны. Пазней адзін з гарадоў быў адноўлены і атрымаў назву Мохшы /знаходзяць у рускіх летапісах/. Там жа ў 1313 годзе пачалі чаканіць манету. Гэты горад быў адміністрацыйна-палітычным цэнтрам улуса Мохшы, які ўключаў заходнюю частку былой Волжскай Булгарыі, гэта значыць вобласць, абмежаваную з захада басейнамі рэк Цна і Мокша, а з поўначы і ўсходу — Волгай.

У складзе Залатой Арды адбываецца далейшае зближэнне мішар і мардвы. Адных і тых жа феадалаў розныя крыніцы называюць то татарскімі, то мардоўскімі мурзамі.

У час праўлення хана Берке /з 1255 да 1266 года/, унука Чынгісхана, прыняўшага іслам, пачынаецца мусульманізацыя Залатой Арды. Гэта сустракае сур"ёзнае супраціўленне залатаардынскіх мішарска-кіпчацкіх феадалаў, якія схіляліся да прыняцця хрысціянства. У сталіцы Залатой Арды Сараі існуе сарайская епархія, у якой разанская епархія спрабуе аспрэчыць права на абслугоўванне хрысціян у басейнах рэк Цна і Мокша, дзе залатаардынскія феадалы мішарска-мардоўска-

га паходжання пачынаюць прымаць хрысціянства. Толькі пры хане Узбеку /1312—1342/ іслам прымаецца як дзяржаўная рэлігія. Гэта паскарае працэс пераходу мішара-мардоўскіх феадалаў, алея не абавязкова ўжо ахрышчаных, на службу да рускіх князёў. Так, напрыклад, сын уладальніка зямель на Мокшы Беклеміш ахрысціўся, узяў імя Міхаіл. Ён стаў першым з князёў Мяшчэрскіх. Праўнук Беклеміша Аляксандр Юр"евіч прадаў у 1380 годзе свае уладанні ў басейне ракі Цна Дзмітрыю Данскому. Такія князі і нехрышчоныя мурзы са сваімі атрадамі называліся служылымі татарамі. Гэтыя мурзы ў XVI і XVII стагоддзях усе ахрысціліся і сталі рускімі вайсковымі начальнікамі і землеўладальнікамі. Можна назваць такія прозвішчы, як Юсупавы, Баскакавы, Салтыковы, Ішболдзіны, Малоставы, Ценішавы, Карамзіны, Корсакавы і інш.

Мішары разам з мардвой, рускімі і іншымі народамі Расіі прынялі актыўны ўдзел у сялянскай вайне пад кіраўніцтвам Емяльяна Пугачова. Адным з вядомых камандзіраў быў мішар Мусей Ішмаметаў. У сяле Татарскія Юнкі Тарбееўскага раёна пахаваны татарскі рэвалюцыянер і паэт Гафур Калахметаў /1881—1918/. Сярод ураджэнцаў Мардовіі — мішар ёсць вядомыя татарскія празаікі і паэты. Адзін з пачынальнікаў савецкай татарскай літаратуры Шарыф Камал /1884—1942/ нарадзіўся ў сяле Татарская Пішля Рузаеўскага раёна. Дзіцячы пісьменнік Фахраліслам Агіеў /1887—1938/ родам з сяла Татарскае Ценішава Атюр"еўскага раёна. Найбольш знакаміты татарскі паэт і драматург 20—30-х гадоў Хадзі Такташ паходзіць з сяла Сугодзь Тарбееўскага раёна. Гэта адзін з чатырох класікаў татарскай паэзіі поруч з Габдулой

Тукаем, Мусой Джалілем і Хасанам Туфанам. Літаратурны крытык і перакладчык Захід Нуркін /1888—1966/ нарадзіўся там жа. На фронце па-геройску загінуў ураджэнец сяла Горанка Зубава-Палянскага раёна татарскі літаратуразнавец Мухамет Мамін /1905—1943/. Паэт і журналіст Ахмет Сімаеў /1915—1944/ з сяла Усць-Рахманаўка Чырвонаслабодскага раёна быў пакараны смерцю ў Берліне немцамі праз шэсць хвілін пасля Мусы Джаліля. Адзін з самых папулярных татарскіх пісьменнікаў Абдрахман Абсалямаў /1911—1979/ з сяла Старое Алагулава Кавылкінскага раёна стварыў буйныя творы пра Вялікую Айчынную вайну. У Казані жыве і працуе вядомы вучоны, акадэмік Мірза Ісмаілавіч Махмутаў мішар з сяла Алтары Рамаданаўскага раёна.

---

Аб"ява

У студзені 1992 г. падпісчыкі атрымаюць літаратурна-грамадскі і грамадска-палітычны часопіс пад назвай "АРГАМАК". Гэта цюркскае слова даўно вядома на Беларусі і абазначае крылатага каня, які стралой ляціць у будучыню. Фармат часопіса нагадвае часопіс "Англия", аб"ём каля 100 старонак. Індэкс татарскага выдання часопіса 78694, індэкс рускага выдання "АРГАМАК" 78695. Кошт гадавой падпіскі 18 рублёў.

Калі на пошце адкажуцца падпісваць, то просім паведаміць аб гэтым у рэдакцыю. У такім выпадку падпіску можна аформіць індывідуальным шляхам: карацок квітанцыі аб аплаце кошту падпіскі разам з Вашым хатнім адрасам просім даслаць на адрас: 423800, Татарстан, г. Набережные Челны, Новый город, ул. Ш.Усманова, 48 / 14-01/, редакции журнала "АРГАМАК".

# НІКОЛІ НЕ ЗАБУДУ КАЗАНЬ

У Навагрудку жыве старэнькая жанчына Аміня Асановіч /дзявочае прозвішча — Паўтаржыцкая/. У час першай сусветнай вайны ў 1915 годзе яна з бацькамі аказалася ў бежанстве ў Казані. Там жа апынулася і некалькі сотань татарскіх сямей з гарадоў і мястэчак Гродзенскай, Віленскай і Ковенскай губерняў.

"Казанскія татары прынялі нас як родных, хоць мовы татарскай мы не ведалі. Для іх было дастаткова таго, што мы былі мусульмане". У Казані Аміня сустрэлася з Алі Асановічам, сям"я якога прыехала сюды таксама з Навагрудка. У 1918 годзе Аміня і Алі ўзялі шлюб, а ў 1919 годзе пакінулі гэты горад. Татары-бежанцы прымалі актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Многія з іх, у тым ліку сястра Аміні — Мяр"ема былі членамі Мусульманскага камітэта ў Казані. Будучы муж Аміні — паручык мусульманскага палка Алі Асановіч, разам з іншымі ў 1917 годзе ўдзельнічаў у штурме Казанскага Крамля і ўзнялі на вежы-мінары Сюмбікі зялёнага сцяга. Аднак гэты сцяг не доўга лунаў над Крамлём. Матросы на бранявіках расправіліся з тымі, хто імкнуўся вярнуць сабе татарскую нацыянальную святыню. Многіх арыштавалі, забілі... У мусульманскім палку разам з Алі Асановічам служылі таксама яго землякі Мустафа Шагідэвіч з Міра і Адам Шчупкі. Трагічна склаўся лёс Адама — ён быў расстраляны за тое, што узяў на заводзе кавалак мыла /у продажы мыла не было, а ў сям"і

гадавалася немаўля, а яго дзіця, разлучанае з маткай, з"елі пацукі.

Калі Амінв Асановіч даведалася, што зусім нядаўна ў Казані мірным шляхам запалаckaўся на мінары Сюмбікі опяг з мусульманскімі зоркай і паўмесяцам, яна ўзрадавалася і засмуцілася адначасова:

"Тое, што беспаспяхова і цаной вялікай крыві хацелі зрабіць семдзесят з лішнім гадоў таму назад вашы дзяды, вы зрабілі сёння бяскроўна і мірна. Малайцы! Але як шкада, што мой Алі так і не даведаецца аб гэтым".

"Ускорасці пасля таго, як мы пакінулі Казань, вярнуліся ў Навагрудак, тут устанавілася ўлада Польшчы. Палякі нас паважалі, нам не перашкаджалі маліцца і жыць па-мусульманску. Мой муж Алі быў муэдзінам у навагрудскай мячэці. Усе беды, прыгнёт і рэпрэсіі мы адчулі ў 1939 годзе, калі аказаліся пад уладай бальшавікоў. Землі і маёмасць наша былі адабраны, большасць мячэцяў зачынялася ці разбуралася, многіх татар адправілі ў турмы, ссылку. Хто змог, той уцёк за мяжу. У 1948 годзе забаранілі багаслужэнне ў мячэці, мінару зламалі, а будынак аддалі пад жыллё. Мой Алі гэта вельмі цяжка перажываў. Маліліся мы ў чым-небудзь доме. А ў 1966 годзе мой Алі памёр".

Амінв Абубякіраўна Асановіч засталася без дзяцей: першы сын Якуб прапаў без звестак у час другой сусветнай вайны, самы малодшы сын Бякір загінуў у Чэхаславакіі, а сярэдні сын—Ісмаіл, які вучыўся ў медрэсе ў Сараеве /Югаславія/, эмігрыраваў у Англію, памёр ад інфаркту. Засталіся там яго дзеці і ўнукі. Можа гэтыя радкі дойдуць.

да добрых людзей-беларусаў у Англіі і яны знойдуць хоць адну жывую родную душу, якая адклікнецца да старой жанчыны /г. Навагрудак, Беларусь, вул. Ваўчэцкага, д. 38а, кв.75/

"У Казані мы сябравалі з сям"ёй Фатыха Галеева, — успамінае Аміня Абубекіраўна. — Яны нам дапамагалі як маглі. У 1949 годзе Фатыху давялося пабываць недалёка ад Навагрудка. Ён у першы вольны дзень пайшоў па вуліцах і пытаў, дзе тут жывуць татары. Так ён знайшоў нас, і на гэты раз ужо мы яму дапамаглі. Добра было б даведацца пра лёс Фатыха і яго сям"ю". Перад расставаннем Аміня Абубякіраўна сказала: "Я заўсёды з цеплынёй успамінаю Казань. Там жа, у Казані, на татарскім мізары пахаваны мае мама і тата, там пралітая кроў за адраджэнне татарскага народа нашых братоў, там я сустрэла свайго любага і брала шлюб... Хочацца, каб татарскі народ стаў вабодным, раўнапраўным з іншымі народамі".

---

Аб"ява

З чэрвеня 1989 г. выдаецца часопіс "ИДЕЛ" на татарскай і "ИДЕЛЬ" на рускай мове. Ідэл — спрадвечная татарская назва р.Волга. Дэвіз часопіса — "Жыццё любі, любі Айчыну, свет, якім жыве народ!". Асноўная тэматыка: літаратура, культура, моладзь, час. У кожным нумары змяшчаецца нарыс пра жыццё татараў у розных кутках свету. Індэкс часопіса на татарскай мове — 73951, на рускай мове — 73922. Кошт гадавой падпіскі 18 рублёў. Падпісацца на часопіс можна на любой пошце.

## МЫ РОДАМ З ВЁСКІ АРДА

За 15 км на паўночны захад ад Клецка знаходзіцца вёска Арда, у якой каля сотні хат і каля 300 жыхароў. Заснавана ў 16 ст. на зямлі князя Радзівіла, а жыхары яе -- татары ў рэлігійных адносінах былі падпарадкаваны муле г.Навагрудка.

Маці мая -- Софія Аляксандраўна -- нарадзілася і нарадзіла мяне ў Ардзе. Як сябе памятаю, яна мне расказвала пра Арду, потым насіла, вазіла і вадзіла ў свой улюбёны кут, на сядзібу сваіх бацькоў. Татары да другой сусветнай вайны тут жылі заможныя, у многіх было па некалькі валок зямлі. Мама і сёстры з маленства дапамагалі бацькам на зямлі. І цяпер, калі ўжо мама пажылая, яна не можа жыць без працы, увесь час на гародзе капаецца. Адразу пасля вайны многія-многія татарскія сем"і выехалі ў Польшчу: палякам, яўрэям і татарам, якія мелі раней польскае грамадзянства, дазволілі пакінуць Беларусь. Паехалі не таму, што не любілі родную зямлю, а таму, што баяліся непамерных падаткаў, ссылкі ў Сібір, калгасаў. Тыя, што засталіся, таксама пацягнуліся ў гарады і мястэчкі.

Прыязджаючы ў Арду, мы заўсёды хадзілі на мізар, які знаходзіцца ў бярозавым гаі. Тут непадалёк і быў хутар майго дзеда. З пагорка відны былі прасторы палёў, невялікія хваёвыя і дубовыя лясочкі. Да 1967 г., калі я з мамай прыязджаў у Арду, яшчэ раслі старыя яблыні на дзедавай сядзібе, а цяпер ужо нічога няма.

Даўней ардзянскія татары сустракаліся на святы са сваімі суплямённікамі ці ў Клецку, ці ў в.Іванава, потым ехалі ў мячэць / джамію / у в.Асмолава, наведвалі мізары, дзе пахаваны родныя і блізкія. За прыгажосць нашыя мясціны аднавяскоўцы ды і іншыя татары маю радзіму крыху з гумарам называлі "Залатой Ардой".

Цяпер жа у Ардзе жыве толькі 8 татарскіх душ: пенсіянеры Яугенія Байрашэуская, Аміня Казакевіч, Марыя і Іосіф Карыцкія. У калгасе працуюць Каміль Байрашэускі, Якуб і Іосіф Карыцкія, унукі ад дачкі Яугеніі Байрашэускай -- Сяргей і Генадзь / бацька у іх рускі /. Пройдзе час і ад татарскай вёскі застанецца толькі татарская назва ды стары мізар.

Мая мама успамінае, куды выехалі нашы татары з Арды: у Баранавічы Адам Багушэвіч, Аміня Карыцкая, Аляксандр Казакевіч; у Клецк Джаміля Курмановіч, Хусаін і Аміня Абрамовічы, Аляксандр Байрашэускі; у Стоубцы Адам Карыцкі; у Бабруйск Галіна Казакевіч; у Гродна Фэля Крыніцкая / Курмановіч /; у Мінск дзве дваюрадныя сястры Аміні Курмановіч, Соня Карыцкая, Ева Казакевіч, Адам і Аляксандр Халембекі; у в. Пуклеушчына Нясвіжскага раёна Софія Халембек; у Польшчу дзве Евы Багушэвіч і Казакевіч, Эмілія Бярнацкая / Халембек /, Хазбіевіч, Олек і Софія Казакевічы. Ды яшчэ многія іншыя павыязджалі, але няхай даруюць, што пакуль успомніць цяжка.

Я часта думаю, а што калі б татарам аддалі іх зямлю, ці не вярнуліся б мнгія у родныя мясціны, ды зяцей навязлі. Можа бы і адрадзілася наша вёска. Ва усякім разе, я бы паехау на бацькаушчыну.

---

<u>Аб"ява</u>

Адкрыта падпіска на штотыднёвік "ТАТАР ИЛЕ" на татарскай і "ТАТАР ИЛЕ" на рускай мове. Назва часопіса -- зямля татарау. Штотыднёвік раскажа пра жыццё татарау у Татарстане і пра усе мясціны, дзе жывуць татары. Кожны з Вас можа пісаць у штотыднёвік. Усё цікавае з Вашых лістоу будзе надрукавана. Індэкс штотыднёвіка на татарскай мове -- 54132, на рускай мове -- 54133. Кошт гадавой падпіскі 25 рублёу 20 капеек.

## УСЁ ТАЙНАЕ СТАНОВІЦЦА ЯЎНЫМ. ТРЭБА ТОЛЬКІ ЦЯРПЛІВА ЧАКАЦЬ

У дзяцінстве мая бедная маці расказвала мне казку. Я да гэтага часу добра не памятую, бо яна не толькі вельмі цікавая, але і вельмі павучальная як для былых гістарычных падзей, так і для сучаснасці народаў.

Усе ведаюць, што ў няпраўды доўгія вушы, якія на доўгі час ад народа нікому не ўдалося схаваць. Праўда і справядлівасць урэшце рэшт пераможуць. Вось гэтая казка:

"У некаторым царстве, у некаторым гасударстве правіў цар-уладыка. У таго цара на галаве быў пачварны гузак. Цар-уладыка не хацеў, каб аб гэтым пачварным гузаку ведалі яго падданыя. Таму ён кожны раз караў смерцю цырульніка, які галіў яго і стрыг яму валасы. Дайшло да таго, што ў царстве застаўся адзін цырульнік. Калі ён пагаліў і пастрыг цара, то ўладыка яму сказаў: "Цябе я павінен пакараць, каб ты не выбалтаў аб гузаку на маёй галаве. Але раз ты апошні цырульнік у маім царстве, то я над табой злітуюся. Глядзі ж, калі ты хоць слоўца скажаш пра мой гуз, то я пазбаўлю цябе жыцця". Цырульнік ведаў, што гэта не пустая пагроза, ледзь не ашалеў са страху і пакляўся цару, што будзе маўчаць, што няхай яму адсохне язык, калі аб царскай тайне хоць бы заікнецца. Прайшло некалькі гадоў. У цырульніка стаў свярбець язык, не ведаў ён, што рабіць, дзень і ноч думаў, як пазбавіцца ад жадання расказаць пра тайну цара. Нарэшце, адважыўся. Пайшоў у лес.

у самыя нетры, выкапаў ямку і апусціў туды галаву. Тройчы крыкнуў: "У нашага цара-ўладыкі на галаве расце пачварны гузак". Пасля гэтага яму стала лягчэй, язык перастаў свярбець і цалявацца. Засыпаў цырульнік ямку і спакойна вярнуўся дадому. Прайшоў час... На тым месцы, дзе ён закапаў ямку, вырасла вялікая бузіна. У тых мясцінах аказаўся пастух. Ён адрэзаў галінку ад дрэва і зрабіў сабе жалейку. Як толькі падуў у яе, дык з жалейкі самі сабой выскачылі словы: "У нашага цара-ўладыкі на галаве расце пачварны гузак". Пастух моцна здзівіўся такому голасу са сваёй жалейкі. Так тайна, сакрэт уладыкі стаў вядомы ўсяму народу".

Мне здаецца, што ў гэтай казцы вельмі справядлівы канец. Тайну ніколі і нікому не ўдавалася схаваць усё жыццё, асабліва калі гэта тайна была пра нешта жудаснае, почварнае.

Доўгі час было невядома, хто падпісаў загад пра жудаснае высяленне татараў з Крыма. Калі 18 мая 1944 г. за адны суткі ўвесь крымскататарскі народ быў вывезены са сваёй Радзімы. У час транспарціроўкі і за паўтара года высылкі загінула больш за 46% татараў. Да смерці Сталіна ніхто не мог спытаць, хто падпісаў жудасны загад, чаму насуперак праўдзе ўзвялі паклёп на цэлы народ, быццам ён дапамагаў акупантам. Цяпер вядома, што віноўнікам гібелі тысяч і тысяч крымскіх татараў былі Сталін, Кагановіч, Маленкоў, Молатаў, Мікаян, Варашылаў, Вазнясенскі, Булганін. Гэта галоўныя лиходзеі, а колькі іх памагатых, якія яшчэ жывуць і перашкаджаюць крымскім татарам вярнуцца на радзіму. У высокіх колах прымаюцца рашэнні аб тым, што татары могуць вярнуцца на радзіму, што іх трэба ўладкаваць на працу, даць зямлю пад забудо-

ву, прадаваць будаўнічыя матэрыялы. Высялілі людзей за адны суткі, а вярнуць не могуць за трыццаць гадоў. А ўрэшце рэшт лёс перасяленцаў-татараў аддаецца на вырашэнне старшыняў раённых і сельскіх выканкомаў, якія і не думаюць выконваць парады Масквы.

Каму трэба было ўзвесці паклёп на народы, якія нібыта здрадзілі Савецкай уладзе, высяліць з роднай зямлі чачэнцаў, інгушаў, карачаеўцаў, балкарцаў, калмыкаў, немцаў, крымскіх татараў і іншых? Пра гэта мы можа даведаемся ад жалейкі. Трэба чакаць, бо ўсё тайнае становіцца ўрэшце рэшт яўным.

---

Хадзісы

Кажы заўсёды праўду, нават калі яна для цябе не выгадна.
Найбольш пажаданы Алаху учынак -- праўдзівае слова.
Аб наступным у вас спытаюць на Страшным Судзе: аб маладосці вашай спытаюць -- як яе патрацілі; аб жыцці спытаюць -- як яго вычарпалі; аб багацці вашым спытаюць -- як яго набылі і як ім распарадзіліся; чаму навучыліся, спытаюць, і як гэта выкарысталі.
Пакуль яшчэ жывуць вашы настаўнікі, запішыце усё, чаму яны вас навучылі, бо забыццё гэтых ведаў тое самае, што іх смерць.
Добрае выхаванне -- гэта найлепшая спадчына, якую можна перадаць для сваіх дзяцей.

# БЕЛАРУСКА-КРЫМСКАТАТАРСКІ СЛОЎНІК

## 1100 слоў і сказаў ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

| Беларускае слова | Крымскататарскае слова |
|---|---|
| а | а, э |
| ААН, Арганізацыя Аб"яднаных Нацый | БМТ, Бирлешмиш Миллетлер Тешкиляты |
| аб | аккында, хусуста |
| абавязак | борджу |
| абавязацельства | меджбуриет |
| абавязкова | мутлакъа |
| абарона | мудафаа / къорчаланмакъ / |
| аб"ём | эписи / битюни / |
| абласны | веляет |
| абмеркаванне | акыл танышмакъ |
| або | яхут, ёкъса |
| абодва | экиси |
| абы | ойле-бойле |
| авёс | джылап |
| ага | а-а |
| агонь | атеш |
| агульны | джумлеси |
| ад | ондан |
| адбыцца | олды, кечти |
| адвярнуцца | ойланды |
| аддаць | бермек |
| аддзел | болюк |
| адзін | бир |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| адзначыць | ишорет этмек |
| адказ | джевап |
| адказаць | джевап бермек |
| адказваць | къайлы дегиль |
| адказнасць | бойн борджы |
| адказны | борджлы |
| адкрыццё | ачылмакъ / ачыладжакъ / |
| адкрыты | ачык |
| адкуль | къайдан |
| аднак | илле |
| адначасова | бир вакытте |
| аднойчы | бир вакыт |
| адносіны | мунасебет |
| адпаведны | онъакелише |
| адпавядаць | келише |
| адпачынак | раатланмакъ |
| адразу | шу арада |
| адсюль | мндан |
| адтуль | андан |
| адукацыя | илими |
| адчуваць | дуймакъ |
| адчуць | дуймак |
| адчыніць | ачмакъ |
| адысці | четке кетмек |
| адыходзіць | чекильмек / кетмек / |
| ажыццяўленне | иджраолды |
| азірнуцца | арткъа бакъмакъ |
| ай | ой |
| Айчына | Ватан, Ветан |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
| --- | --- |
| айчынны | ватандан |
| акадэмія | академия |
| аказацца | анда къалмакъ, ойле чыкъты |
| адказваць | костермек, булунмакъ |
| акно | пенджере |
| акрамя | ондан башкъа / башкъа / |
| актыўны | арекетли сурette |
| актыўны | арекетли |
| але | лякин |
| емаль | эр бир заман |
| амерыканец | америкъалы |
| амерыканскі | америкъанынъ |
| англійскі | энглизи |
| англічанін | энглиз |
| апарат | апарат, машна |
| аперацыя | аперация |
| апладысменты | эль чырпмалар |
| апошні | сонъгы |
| апынуцца | къалмакъ / ойле олмакъ / |
| араць | сурмек |
| арганізацыя | тешкилят |
| армія | орду |
| артыкул | макъале |
| асабліва | ойле, пек, хусусан |
| асаблівы | айрыджа |
| аснова | темели, эсае |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| асноуны | темелли |
| асобны | айры |
| асташца | къалмакъ |
| асцярожна | мукъайт олмакъ |
| атрад | болюк, отряд |
| атрымаць | алмакъ |
| аутамат | автомат |
| аутар | муэлиф |
| афіцэр | офицер |
| ах! | ах! |

Добры дзень! -- Селям алейкум! Адказ: Дзень добры-- Алейкум селям

Будзьце здаровымі -- Сагълыкъман къалынъ.

Адказ: Будзьце і вы здаровымі -- Сагълыкъман барынъ.

Ці усё добра у сям"і? -- Хоранданъыз якъшымы?

Адказ: Нічога сабе -- Бир джорыкъ.

/ Працяг будзе /

---

КРЫМСКАТАТАРСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ ОЗЕН БОЙЛАРНЫНЪ
/ Берагі ракі. Словы гл. на стар. 54 /

О_зен бой_ла_ры_нынъ ин_джа ду_ма_ны,
дагъ_ла_ра я_йы_лыр, се_хар зе_ма_ны.

Инструментальное вступление:

# ТУГАН ТЕЛ

**Габдулла Тукай шигыре** — **Татар халык көе**

И туган тел, и матур тел, әткәм-әнкәмнең теле!
Дөньяда күп нәрсә белдем син туган тел аркылы.

Иң элек бу тел белән әнкәм бишектә көйләгән,
Аннары төннәр буе әбкәм хикәят сөйләгән,

И туган тел! Һәрвакытта ярдәмең белән синең,
Кечкенәдән аңлашылган шатлыгым, кайгым минем.

И туган тел! Синдә булган иң элек кыйлган догам:
Ярлыкагыл, дип, үзем һәм әткәм-әнкәмне, ходам!

Габдула Тукай

Туган тел – родная мова

Плавольня



Габдула Тукай

Туган тел — родная мова

Мова родная, святая, мова маці дарагой!
Шмат я ў гэтым свеце зведаў, заручыўшыся табой.

Роднай мовай пела маці калыханку спакваля,
Па начах бабуля казкі ціха баіла пасля.

Мова родная! Апорай ты была мне заўсягды,
Я з табой адчуў з маленства подых радасці й бяды.

Мова родная! Табою я малюся першы раз:
Божухна, даруй матулі, бацьку, мне, памілуй нас!

З татарскай пераклаў Рыгор Барадулін

---

**ТУГАН ТЕЛ — РОДНАЯ МОВА**

Мова родная, святая, мова маці дарагой !
Шмат я у гэтым свеце зведау, заручыушыся табой.

Роднай мовай пела маці калыханку спакваля,
Па начах бабуля казкі ціха баіла пасля.

Мова родная ! Апорай ты была мне заусягды,
Я з табой адчуу з маленства подых радасці й бяды.

Мова родная ! Табою я малюся першы раз:
Божухна, даруй матулі, бацьку, мне, памілуй нас !

З татарскай пераклау Рыгор Барадулін

22 красавіка 1991 г.

## К БОГУ

Как долго мене пришлось бродить, искать,
Чтоб веру предков вновь принять.
Я с детства от своих оторвана была
И Вера в Бога во мне почти что умерла.

Но Бог не дал её совсем забыть
И в мыслях у меня она осталась жить.
Молитву в детстве Аль-Фатиха
Мне вечером читала моя мама Фатима.

Поэтому, О Бог-Аллах, ты жизнь мне дал.
И как шайтан бы ни хотел, её он не забрал.
И Всемогущий чрез татарку Нагиму
Ты вновь привёл меня к народу моему.

К общенью с нашими людьми
Мы собираемся и в горестные, и в радостные дни.
Молитвы на собраниях читаем, изучаем свой язык,
В намазе пред Тобой свой преклоняем лик.

И просим, О Аллах, о Всемогущий наш
Не покидай нас в этот трудный час.
И сделай так, чтоб мусульмане всей планеты
Были единым пламенем согреты.

## СЕЛИМУ ХАЗБИЕВИЧУ

Я потомок крымских ханов
И степной полыни горькой.
Голос крови тех уланов,
Что в Литве сражались бойко.

Я наследник мурз татарских
И осколок польской шляхты,
Правнук всадников боярских
На заставах нёсших вахту.

Шесть веков живу я долгих
На земле Литвы родимой:
Здесь мой дом — мой берег Волги
И далёкий берег Крыма...

x x
x

Поезда, поезда, уходящие вдаль,
Уезжаете вы — остается печаль,

Уезжаете вы и увозите всё —
Всё, что было прекрасно, что было моё.

Всё, что было моим — не вернуть, не вернуть,
Всё уехало с вами в далёкий ваш путь...

x x
x

Дождь капал на мои руки,
С моих рук падал на землю,
На земле собирался в ручейки,
Ручейки неслись к рекам,
Реки стремились к морю,
Море катило волны к океану,
Океан поднял взгляд к вселенной...
А дождь всё падал на мои руки,
А океан всё смотрел на вселенную...

x x
x

Однажды мы ехали на автобусе. Дорога была долгой и утомительной. Мы въезжали в берёзовую рощу. Деревья по обеим сторонам дороги вытянулись в струну и начали быстро мелькат[ь]. Они так долго тянулись и пестрели перед глазами, что мне показалось, будто берёзы — это мои годы, а мчащийся автобус — сама жизнь.

Я невольно подумал: Лишь автобус минует эту рощицу и устремится дальше, как тотчас оборвется моя жизнь и я останусь лежать у последней берёзы на виду у неба.

А водитель на каждой остановке всё будет брать новых пассажиров, снова будет проезжать рощи... И так без конца..

## WIELKI TURAN

Płonące słońca Turanu
Czerń cienia i brąz ciał
błysk szabli buńczuka
deszcz

Gwiazdo Turanu
słona kobieto Azji
duchy przodków wychodzą
z bębna i piszczałki

Jeźdźcy zbliżają się do meczetu
Skrzypi wiatr między
deskami dziewczyna
zbliża brązowe ciało kropla
deszczu na włóczni

W pyle i kurzu dojeżdżam
do Kruszynian
drobna cząstka Wiecznego Turanu
powyrzucałem wszystkie kobiety
chociaż ich ciała fascynowały mnie
jadłem je i piłem a one
tak gorliwie umierały we mnie
w snach traktował je
jeździec z buńczukiem
a były jak trawa na wiosnę
radośnie chłonęły deszcz
a woda z ich ciał
spływała w sypki
piasek

## MISTYKA WSPOMNIEŃ

Cóż jest ojczyzną Tatarów?
Podlaski krajobraz dworek kresowy
Książka z arabskimi literami
kryjąca deszcz i raj
Przypowieści Salomona i odległy
Wschód
Przechodzą nieme szeptane
przez wargi
podlaski piach

## MISTYKA WSPOMNIEŃ (II)

Nieme są księgi Tatarów
A ich kobiety odchodzą
bez wojowników
Nie ma już ognisk dymów
i zaścianków
Dotąd cisza
przeszukuje domy
ubrania
podlaski piach

## WIATR OD KIPCZAKU

Ja, pielgrzym polskiego Islamu
władyka bezprzestrzennego
królewstwa, zwalczyłem
w swoich poematach czas i przestrzeń.

A Dżalaluddin Rumi
Wiliam Blake i Czyngis-chan
i wszystkie ordy mojej pamięci

z tętentem koni
jękiem palonych traw

słuchaja Jedynego Fletu
wyobraźni

Tatarzy z kobietami
i końmi idą
przez Karpaty

tatarska czata
na Horyniu

Tajemnica
Orientu

## MELANCHOLIA

Jestem Tatarem. Ostry powiew stepu
Twarz moją pieści. A moja ojczyzna
mieszka w rycinie starego meczetu,
w mieście Wilnie.
Moja żona bezbrzeżność słowiańską
podaje mi na srebrze
a jej ręce pachną
Czarnoziemem Budziaku
pragnieniem miejskiego azjaty.
na deszczu i wietrze
slucham głosu przodków.

## MESJANIZM STEPÓW

Kiedy każdego dnia rano atakuje mnie codzienność
I boli mnie każda z rzeczy która moja jest
Kiedy nienawiść i tęsknota szarpią splot słoneczny
Kiedy brak nadziei i wątpliwości jak oszalałe
Zwierzęta wgryzają się w to co kiedyś było
moją duszą, a rozpacz i samotność chwytają mnie
za gardło i kiedy wiem, że ten dzień może być
moim kolejnym Waterloo i kiedy robię wszystko
aby etyka przestała być punktem odniesienia
a stała się podstawą, kiedy rzeczywistość
staje się wściekłym zwierzęciem, które trzeba
zabić by żyć — nagle rozstępuje się wewnętrzna
przestrzeń — w ciszy w skwarze lata słychać
mistyczną muzykę fletu w błękicie Wewnętrznego
Nieba jaśnieje kojącym blaskiem tamga Girejów
Metafizyka wewnętrznego światła. Spokój.
Cisza wewnętrznego Oceanu.

Кароткія паведамленні

## ЗВЕСТКІ ЦІКАВЫЯ, АЛЕ ЦІ ВЕРАГОДНЫЯ ?

Наш сябар з Татарстана вядомы паэт Фаяз Фаізаў даслаў вытрымку з кнігі прафесара А.Х.Халікава "Происхождение татар Поволжья и Приуралья", якую выдала Татарскае кніжнае выдавецтва ў 1978 г.

"Так, восенню 1552 г. Іван Грозны "вялікіх і сярэдніх казанскіх людзей, татараў, усіх вывяў / з Казанскага ханства /, даў ім вёскі і воласці ў маскоўскіх, а іншым у наўгародскіх і псякоўскіх землях... У час Лівонскай вайны многа казанцаў і цемнікаўцаў / ад г.Цемнікаў, цяпер у Мардовіі /-- служылых людзей колькасцю больш за 30 тысяч былі ўзяты на вайну. Многія з іх затым аселі ў Літве і ўсходняй Польшчы і зліліся з раней пасяліўшыміся там залатаардынскімі татарамі Тахтамыша. Так утварылася тут польская ці літоўская група татараў".

## НАЦЫЯНАЛЬНЫЯ МЕНШАСЦІ У СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСІ

Так называецца вельмі цікавы артыкул, змешчаны ў зборніку "Ленинградская конференция по правам меньшинств" / 2 -- 4 июня 1991 г., Ленинград /.

Аутары І.В.Карашчанка і П.У.Церашковіч / Мінск / пішуць:

"Татары на Беларусі вядомы з канца XIУ ст. У ХУІ ст. перайшлі на беларускую мову. Колькасць невялікая, але даволі стабільная: у 1897 -- 10 тыс. чалавек, у 1959 -- 8,6 тыс., у 1989 -- 12,5 тыс. чалавек. Характэрная асаблівасць палажэння групы -- выключна дружалюбны характар узаемаадносін з беларусамі. У 1989 г. ў Мінску створана таварыства "Аль-Кітаб", у якім аб"яднаны як уласна беларускія татары, так і мігранты з Татарстана".

## ТАТАРСКІ НАПІТАК БУЗА

Бузу падаюць на дэсерт у знак павагі да гасцей. Цяпер гэты напітак найчасцей гатуюць з крупаў "Геркулес".

Вымыць аўсяныя крупы ў зімнай вадзе і вымачыць 10—20 хвілін у цёплай вадзе ў накрытым посудзе. Пасля крупы перападзіць, пакласці тонкім слоем на бляшаны ліст і паставіць у слаба нагрэтую духоўку ў пліту на падсушку. Пасля гэтага крупы можна размалоць у муку, прапусціўшы яе праз мясарубку.

На I пачку прамытага, прасушанага і перамолатага "Геркулеса" у міску пакласці 2 шклянкі пшанічнай мукі, распушчанага масла і ўсё гэта старанна перамяшаць. Наліць вараток і мяшаць да ўтварэння цестападобнай масы. Пасля гэтага шчыльна накрыць посуд, каб захаваць цяпло і патрымаць так 30 хвілін, затым разбавіць масу вараткам пакаёвай тэмпературы.

Калі апара астыне да 25 -- 20 °С, дадаць дрожджы, шклянку цукру і даць пабрадзіць. Пасля масу зноў разбавіць цёплай вадой, старанна перамяшаць і перацадзіць праз сітца. У масу, якая засталася на сітцы наліць вады і зноў перацадзіць, але нельга дапусціць, каб буза зрабілася вельмі рэдкай. Выжымкі адкідваюць. У бузу высыпаць I—2 шклянкі цукру, перамешваюць і пакідаюць для бражэння ў цёплым месцы. Калі буза падыйдзе і стане кіславатай, яна гатова для ўжытку. Перад ужыткам можна яшчэ дадаць цукар. Захоўваюць бузу ў зімным месцы.

Для атрымання 6—7 літраў бузы трэба: I пачак "Геркулеса", 100 г масла, 25—30 г дражджэй, 2 шклянкі пшанічнай мукі, 2 шклянкі цукру.

## З М Е С Т

# СОДЕРЖАНИЕ

Падпісана да друку 15.10.91г.
Тыраж 400 экз. Фармат 60 х 84 1/16
Ум. друк. арк. 5,1 Папера друк. № 1. Зак. 83
Надрукавана на ратапрынце выдавецтва
"Беларуская Савецкая Энцыклапедыя"
імя Петруся Броўкі
Мінск, вул. Ф. Скарыны, 15-а.